ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

20 ЧЭРВЕНЯ 2003 г. № 25/4211 КОШТ 540 РУБ.

## VII Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі

## Маладзечна 2003





*Сёння — урачыстае адкрыццё Нацыянальнага фестывалю беларускай паэзіі і песні "Маладзечна-2003". За мінулыя паўгода з'явілася на старонках "ЛіМа" нямала матэрыялаў, звязаных з літаратурна-музычным святам, з яго колішнімі падзеямі ды традыцыямі. Апроч таго, розныя нашы публікацыі дадавалі штрыхі да партрэта ўтульнай "фестывальнай сталіцы", своеадметнага і перспектыўнага асяродка, якім успрымаецца Маладзечна. Пагартаўшы гэты нумар "ЛіМа", вы, безумоўна, дададзіце яшчэ некалькі штрыхоў да свайго ўяўлення пра літаратурна-музычны фэст, герояў яго гісторыі, новых удзельнікаў, азнаёміцеся з праграмай сёлетняга свята жывога слова беларускага, спакроўленага з жывой музыкай.*



НА ЗДЫМКАХ: пераможца самага першага конкурсу маладых выканаўцаў у Маладзечне Наталля ТАМЕЛА, лідэр сёлетняга Рэспубліканскага спаборніцтва беларускіх эстрадных спевакоў Уладзімір АЎЧАРОЎ і ..."сузор'е творцаў" на леташнім фестывалі.

Глядзіце старонкі 4—5, 10—11, 12—13 і 16.

# КОЛА ДЗЁН

**24 чэрвеня заканчваецца падпіска на перыядычныя выданні нашай краіны на другое паўгоддзе. Для супрацоўнікаў газет і часопісаў час падпіскі — гэта як жніво для хлебаробаў — гарачая пара. Вынікі падпіскі залежаць не толькі ад супрацоўнікаў рэдакцый, але і ад самых чытачоў, ад іх адносін да таго ці іншага выдання. Словам, ці будзем мы і далей казаць, што беларускамоўныя выданні не чытаюцца і будзем самі іх не выпісваць і не чытаць, ці выпішам і гэтым скажам, што мы, беларускамоўныя чытачы, былі, ёсць і будзем...**

### СУВЯЗЬ ТЫДНЯ

На сённяшні дзень каля трох з паловай мільёнаў беларусаў жыве ў замежжы. Адзіным звяном іх сувязі выступае створанае ў 1990 годзе Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", якое аб'ядноўвае 135 разнастайных арганізацый з 28 краін. Першы раз "тутэйшыя" і "замежныя" беларусы сабраліся на З'езд беларусаў свету 8—10 ліпеня 1993 года ў Мінску. Сёлета ж ЗБС "Бацькаўшчына" збіраецца адзначыць дзесяцігоддзе Першага з'езда: для падрыхтоўкі створана адпаведная рабочая група на чале з прадстаўніком знакамітага роду, акадэмікам Радзімам Гарэцкім. Святкаванне запланавана на 6 ліпеня гэтага года і будзе складацца з адкрыцця мемарыяльнай дошкі, прысвечанай дзеячам Інбелкульта (вул. Рэвалюцыйная, 15), урачыстага пасяджэння і канцэрта. Чарговы з'езд ЗБС "Бацькаўшчына" пройдзе ў 2005 годзе.

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

3 ліпеня, на Дзень незалежнасці Беларусі, у нашай сталіцы з'явіцца новы стадыён. Гэта будзе першы ў Мінску стадыён для хакея на траве, а размесціцца ён у парку імя М. Горкага. Будаўніцтва новага стадыёна пачалося ў снежні 2002 года і на яго трыбунах размесціцца 8000 гледачоў.

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

У самым цэнтры нашай сталіцы — на перасячэнні вуліц Гарадскі вал і Няміга — ёсць сквер, назву якога, відаць, мала хто і ведае, а носіць ён імя вялікага паэта Адама Міцкевіча. Цяпер ідзе рэканструкцыя сквера, а калі яна будзе закончана, у ім гарадскія ўлады плануюць паставіць помнік Адаму Міцкевічу, якому ў снежні споўніцца 205 гадоў з дня нараджэння.

### ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦЬ ТЫДНЯ

Першым беларускім суцэльнаметалічным самалётам "СМ—1" кароткага ўзлёту і пасадкі, выраблены па агульнапрынятай тэхналогіі, зацікавіліся ў некаторых арабскіх краінах, а таксама ў дзяржавах сярэднеазіяцкага рэгіёна. Гэта стала магчымым дзякуючы ўдзелу беларускай фірмы "Вамкон", якая і вырабіла самалёт, у прайшоўшай у Мінску выстаўцы "M]LEX—2003".

### ЛЕКІ ТЫДНЯ

Беларускі біёлаг, кіраўнік міжнароднага навукова-вытворчага праекта па распрацоўцы антывірусната прэпарата "Фітагор" Уладзімір Рымша не сумняваецца, што яго вынаходства зможа перамагчы атыповую пнеўманію. "Фітагор" ужо зарэкамендаваў сябе як сродак для прафілактыкі і лячэння вострых рэспіраторных захворванняў.

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

З 1 ліпеня індэксацыя тарыфаў на электраэнергію для насельніцтва будзе ажыццяўляцца штомесячна. Такое рашэнне прынята ўрадам нашай краіны. Раней індэксацыя праводзілася штоквартальна.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Наша краіна не горная, але доўгажыхароў у нас таксама хапае. Так у Брэсцкай вобласці 180 чалавек перасягнулі мяжу 100 гадоў. Самая старая жыхарка вобласці жыве ў вёсцы Семігосцічы Столінскага раёна. Аляксандры Акостцы споўнілася 115 гадоў. А весь мужчыны-доўгажыхару Станіславу Вялічку з вёскі Мазуркі Ляхавіцкага раёна — толькі 106 гадоў.

### "ЗОРКІ" ТЫДНЯ

На сённяшні дзень у нашай краіне "зорны" статус маюць (афіцыйна пацверджаны) толькі тры гатэлі. У катэгорыі "тры зоркі" знаходзяцца наваполацкі гатэль "Нафтан" і гатэль мінскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра (IBB). Акрамя таго, сертыфікат, які пацвярджае статус "чатыры зоркі", мае гасцінічны комплекс "Мінск".

### ПАДРЫХТОЎКА ТЫДНЯ

У Мінску рыхтуецца да выпуску элітнае шампанскае "Радзівіл". Новае шампанскае вырабляецца з купажу французскіх і малдаўскіх вінаматэрыялаў і вытрымліваецца шэсць месяцаў. Шампанскае будзе разлівацца ў бутэлькі ёмістасцю 0,75 літра з цёмна-сіняга шкла з этыкеткай бэжавага колеру. Першая партыя новай прадукцыі з'явіцца на прылаўках нашых крам у канцы кастрычніка — пачатку лістапада гэтага года. Праўда, кошт для многіх будзе кусачы — 20—25 тысяч рублёў за пляшку.

**ДАНІНА ПАВАГІ**

***Васіль Быкаў дома. І хоць ён нейкі час быў у замежжы, але ўсё там напісанае ім друкавалася і мела шырокі чытацкі розгалас на Радзіме. А інакш і не магло быць, бо Васіль Быкаў заўсёды быў, ёсць і будзе са сваім народам. 19 чэрвеня Васілю Быкаву споўнілася 79 гадоў. Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва", супрацоўнікі і чытачы "ЛіМа" віншуюць Васіля Уладзіміравіча з днём нараджэння і жадаюць яму добрага здароўя, творчага настрою і плёну на карысць нашай краіны.***



**ДАЧЫНЕННІ**

## У ПАЛОНЕ ШВЕДСКАЙ КУЛЬТУРЫ

У чэрвені ў Мінску праходзяць Дні культуры Швецыі (арганізатары — Консульства Швецыі ў Мінску, Пасольства Швецыі (г. Масква), Шведскі Інстытут пры падтрымцы Міністэрства культуры РБ). Трэба адзначыць, што культурны абмен паміж Швецыяй і Беларуссю быў вельмі нязначны ў параўнанні з культурным абменам Швецыі з Расіяй і краінамі Балтыі. Але ў апошнія гады культурныя сувязі ажывіліся, акрамя ўсяго астатняга, дзякуючы і праекту "Партнёрства ў імя культуры" (1998—2001 гг.), які быў спецыяльна накіраваны на стварэнне кантактаў з работнікамі культуры Беларусі. У рамках праекту Шведскі Інстытут арганізаваў сустрэчы паміж шведскімі і беларускімі пісьменнікамі, мастакамі, Дні шведскага кіно ў Беларусі. Новая акцыя — Дні культуры Швецыі працягвае замацаванне кантактаў паміж Швецыяй і Беларуссю.

У галерэі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта прадстаўлены цікавы відэа-арт праект "Who is" Магнуса Бертаса, які шмат гадоў карыстаецца асаблівай тэхнікай запамінання і назірання падчас кароткіх сустрэч з людзьмі. ("Пагутарыўшы з чапавекам на працягу пэўнага часу, я пішу такую своеасаблівую справаздачу, якая складаецца з кароткіх сентэнцый, інфармацыі і аповеду", — расказаў М. Бертас.) Прайшоў літаратурны вечар з удзелам журналіста, драматурга і пісьменніцы Інгі-Ліны Ліндквіст, якая нарадзілася ў Вільнюсе, а дзяцінства правяла ў Барысаве. Спадарыня Ліндквіст цікава расказала пра сябе (яе літаратурны талент заўважыў вядомы паэт І. Бродскі), пра кнігавыдавецтва ў Швецыі. Дарэчы, сёлета Шведскі Інстытут, мэта якога распаўсюджваць інфармацыю аб Швецыі за мяжой, выдаў выбітную брашуру "Шведская дзіцячая літаратура" (яе падрыхтавалі літаратуразнаўцы М. фон Баумгартэн-Ліндберг і У. Ісаксон). Некалі вядомая шведская пісьменніца Астрыд Ліндгрэн казала: "Дзецям неабходна любоў, — але і крышачку бескантрольнасці". Гартаючы стракатую, рознакаляровую, вельмі цікавую брашуру, проста здзіўляешся гэтай добрай "бескантрольнасці" шведскай дзіцячай літаратуры. Сёння ў Швецыі існуе даволі вялікі рынак дзіцячай кнігі: вялізнымі тыражамі выдаюцца пераважна кніжкі-малюнкі, у якіх тэкст і карцінкі вядуць свой аповед па чарзе, маючы свой уласны рытм (адзін з самых папулярных аўтараў кніжак-малюнкаў — Свен Нурдквіст, які прыдумаў забаўляльных дзядка Пэтсана і кацяня Фіндуса), мастацкія пазнавальныя кнігі, у якіх закранаюцца такія папулярныя ў дзяцей тэмы, як жывёлы і прырода, гісторыя, цела чалавека, астраномія, дыназаўры (у жанры пазнавальнай кнігі з поспехам працуе даволі арыгінальная пісьменніца Перніла Стальфельт, якая ўжо напісала "Кнігу аб каханні", "Кнігу пра смерць", "Кнігу аб валасах" і нават "Кнігу пра какашкі").

Як адзначае ў брашуры выкладчык літаратуры Ян Хансан, "у шведскай літаратуры для дзяцей і юнацтва больш не існуе ніякіх табу, калі толькі ў стаўленні да радасці адчутай наконт незаслужанага багацця. Затое дазваляецца красці калядныя елкі, а бацькам — даваць апляўвуху дырэктару школы"...

У рамках Дзён культуры Швецыі таксама — арыгінальная фотавыстава Стэфана Лундгрэна "Twin Peaks", (Музей Сучаснага выяўленчага мастацтва), а таксама рэтраспектыва фільмаў Інгмара Бергмана "І. Бергман. Партрэт майстра", прысвечаная 85-годдзю славутага кінарэжысёра.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

**КАНФЕРЭНЦЫІ**

## ПАМНОЖЫЦЬ ПРЫГАЖОСЦЬ НА ЗЯМЛІ

Такой была асноўная думка праведзеных у Мінску IX Міжнародных Кірыла-Мяфодзіеўскіх Чытанняў. Як заўсёды, яны прысвячаліся Дням міжнароднай пісьменнасці і культуры. Чытанні прайшлі ў БДУ культуры і на факультэце тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта пры арганізацыйнай падтрымцы Хрысціянскага Адукацыйнага Цэнтра імя святых Мяфодзя і Кірылы. Урачыста адкрыў іх Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Канферэнцыя, якая мае назву Чытанняў, была міжнароднай. Сёлета Кірыла-Мяфодзіеўскія Чытанні праходзілі па строга тэматычным прынцыпе. Іх тэма, "Царква і адказнасць за тварэнне", гучыць асабліва востра ў Беларусі — на зямлі, якая пацярпела ад наступстваў чарнобыльскай трагедыі.

На адкрыцці Чытанняў прысутнічалі кіраўнікі Міністэрства адукацыі, беларускіх ВНУ, прадстаўнікі дыпкорпуса, госці з краін блізкага і далёкага замежжа, святары праваслаўнай і каталіцкай канфесій, навукова-педагагічныя работнікі. Да ўдзельнікаў канферэнцыі з прывітальным словам звярнуліся прарэктар БДУ культуры М. Бяспалая, рэктар ЕГУ А. Міхайлаў, часовы паверaны Балгарыі ў Беларусі Э. Сапетжыеў. Даклады, якія прагучалі падчас IX Кірыла-Мяфодзіеўскіх Чытанняў, адлюстравалі асаблівасці светапогляду кожнага з удзельнікаў гэтай канферэнцыі. Аднак усе навуковыя паведамленні былі аб'яднаны агульнай ідэяй аб тым, што адказнасць за падзеі на зямлі павінны падзяліць мы разам. Будучыня планеты, дасканаласць умоў жыцця на ёй поўнасцю залежаць ад нас.

Сёлетнія Чытанні выявілі пераемнасць традыцый асветніцтва ў нашай культуры. Яны зрабілі значны ўнёсак у справу ўзаемнага ўзбагачэння людзей розных краін і перакананняў.

**Н. К.**

# РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

## НАГАДВАЕ:

## 24 чэрвеня ЗАКАНЧВАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 2-ое ПАЎГОДДЗЕ 2003 ГОДА!

Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на другое паўгоддзе 2003 года. На выданні Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні нашай краіны. Кошты засталіся тымі ж, што і былі ў першым паўгоддзі. Для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь адкрыта льготная падпіска.

### "Літаратура і мастацтва"

Індывідуальная (індэкс — 63856)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
**Ведамасная (індэкс — 63857)**
**на 1 месяц — 4000 руб.**
**на 3 месяцы — 12000 руб.**
**на 6 месяцаў —24000 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 63880)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Полымя"

Індывідуальная (індэкс — 74985)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00141)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00727)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Маладосць"

Індывідуальная (індэкс — 74957)
**на 1 месяц — 2600 руб.**
**на 3 месяцы — 7800 руб.**
**на 6 месяцаў — 15600 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00137)
**на 1 месяц — 3800 руб.**
**на 3 месяцы — 11400 руб.**
**на 6 месяцаў — 22800 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00731)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Крыніца"

Індывідуальная (індэкс — 74824)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
Ведамасная (індэкс — 74940)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00730)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Нёман"

Індывідуальная (індэкс — 74968)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
**Ведамасная (індэкс — 00238)**
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб**
Ведамасная льготная (індэкс — 00728)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Всемирная литература"

Індывідуальная (індэкс — 74863)
на 1 месяц — 2500 руб.
на 3 месяцы — 7500 руб.
на 6 месяцаў — 15000 руб.
Ведамасная (індэкс — 00135)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб**
Ведамасная льготная (індэкс — 00729)
на 6 месяцаў — 16800 руб.




СУСТРЭЧЫ

На мове ж Тараса: "Борітеся — поборете". Пад гэтакім дэвізам на Львоўшчыне прайшло Шаўчэнкаўскае літаратурна-мастацкае свята "У сям'і новай вольнай". Урачыстасць пачалася каля помніка Тарасу Шаўчэнку на плошчы, затым у тэатры оперы і балета імя С. Крушальніцкай. Выступалі пісьменнікі, артысты, прадстаўнікі гарадской, абласной і






ўсеўкраінскай адміністрацыі, у прыватнасці, Уладзімір Яварыўскі, які ачольвае Нацыянальную спілку пісьменнікаў, дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны.

Тры дні працягваліся сустрэчы пісьменнікаў, майстроў мастацтва ў навуковых і студэнцкіх калектывах, з грамадскасцю гарадоў і раёнаў Львоўшчыны. Ладаваліся выставы, гучалі вершы кабзара, лунаў дух ягонай творчасці над Галіччынай.

Увогуле на Галіччыне ў нас былі цікавыя сустрэчы. Парадаваў нас, беларусаў, напрыклад, львавянін Раман Лубкіўскі, адзін з арганізатараў гэтага свята. Ён ініцыяваў, уласна, падрыхтаваў, у значнай меры сам пераклаў і выдаў збор рознажанравых твораў Максіма Багдановіча "Стратим-лебідь". А далей мяркуе па-новаму прачытаць і перакласці на ўкраінскую мову Янку Купалу.

Гучалі зрэдку і беларускія песні ў выкананні вакальнага квартэта "Явір", — ды вершы беларускіх паэтаў.

Для нас, дарэчы, быў падрыхтаваны сюрпрыз. Газета "Літературна Україна" прысвяціла братэрскім сувязям з Беларуссю ажно дзве шырэзныя паласы. У перакладзе на ўкраінскую мову надрукавалі вершы Янкі Купалы, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Сяргея Законнікава, Васіля Зуёнка, Анатоля Вярцінскага, Вячаслава Рагойшы, Сяргея Панізніка. А побач — найвыдатнейшыя ўкраінскія паэты Д. Паўлычка і Р. Лубкіўскі ў форме інтэрв'ю адзін аднаму — разважаюць аб ідэйных ды творчых стасунках з беларускімі калегамі.

У свяце на Львоўшчыне ўдзел бралі А. Кудравец, першы намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў (кіраўнік дэлегацыі), Г. Бураўкін, С. Законнікаў, В. Рагойша, Т. Кабржыцкая, В. Стралко, а яшчэ — аўтар гэтых радкоў. Нашы літаратары наведалі (разам з вакальным квартэтам "Явір") Туркаўскі і Яварыўскі раёны, выступілі перад яго жыхарамі, пабывалі ў старажытным паселішчы Гарадок. В. Рагойша і Т. Кабржыцкая ўзялі ўдзел у міжнародным круглым стале "Свет Шаўчэнкі — сучасныя візіі".

Адбылася сустрэча нашых пісьменнікаў з беларускай абшчынай на Львоўшчыне, якую ўзначальвае генерал-маёр у адстаўцы Сяргей Кулікаў. Там парадаваў нас канцэрт мастацкай самадзейнасці беларускай дыяспары — мастацкі кіраўнік Ірына Глябовіч.

Удзел у сустрэчы прыняў таксама і архіепіскап Львоўскі і Галіцкі, уладыка Аўгусцін, беларус. Дарэчы, кіраўніцтва абшчыны разам з уладыкам Аўгусцінам маюць намер пабудаваць у Львове беларускую царкву Святой Еўфрасінні Полацкай, а з царквой і памяшканне, дзе будуць размяшчацца беларускі культурны цэнтр і нядзельная школа для дзяцей. Чакаюць, што ў гэтым ім дапамогуць і ўлады на Бацькаўшчыне.

Апошнімі, з кім мы сардэчна развіталіся пры выездзе з Львова, былі нашы сябры Раман Лубкіўскі і Сяргей Кулікаў.

У арганізацыі паездкі беларускіх пісьменнікаў у Львоў выключную ролю адыгралі амбасада Украіны ў Мінску і асабіста яе пасол Анатоль Дронь.

**Васіль ЯКАВЕНКА**

СУСТРЭЧЫ

НАШ СОВРЕМЕННИК
Журнал писателей России
№ 6 2003

## "НАШ СОВРЕМЕННИК"

**Часопіс пісьменнікаў Расіі "Наш современник" апошнім часам шмат аддае ўвагі і сваіх старонак культурнаму і грамадскаму жыццю нашай краіны. Друкуюцца не толькі літаратурныя творы беларускіх пісьменнікаў, а і аналітычныя артыкулы, у якіх аналізуецца сённяшні стан спраў у Беларусі і прасочваюцца перспектывы беларуска-расійскага супрацоўніцтва на бліжэйшыя гады.**

**Толькі што з друку выйшаў шосты нумар "Нашего современника". У ім у рубрыцы "Белая Русь" змешчана гутарка галоўнага рэдактара часопіса Станіслава Куняева і намесніка галоўнага рэдактара Аляксандра Казінцава з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам, які выказаў не проста афіцыйную думку па ўзнятых пытаннях, але і гаварыў "шчыра, адкрыта, нават больш, чым гэта магчыма для палітыка". Да прыкладу, калі гаворка зайшла пра рынкавыя ўзаемаадносіны паміж дзяржавамі Аляксандр Лукашэнка зазначыў: "Мы не прымаем рынкавай (а на самай справе драпежніцкай) жорсткасці. Але хіба можа Беларусь ізалявацца ад глабальных працэсаў? Наша задача — звесці да мінімуму наступствы драпежніцкай палітыкі".**

**Добрую частку нумара займаюць творы беларускіх пісьменнікаў: апавяданні Алеся Савіцкага і Эдуарда Скобелева, вершы Таісы Бондар, Андрэя Скарынкіна і Генадзя Пашкова, артыкул Сяргея Ткачова. Мяркуем, што чытачы з цікавасцю прачытаюць гэты нумар.**

# ДАЛУЧЫМСЯ "СЭРЦАМ І ДУМАМІ"

Маладзечна... Памятаю цёплы водар летняй ночы, яркія сполахі петард, звонкія чыстыя галасы... І беларускае слова, прыгожае, натуральнае, якое гучыць не толькі са сцэны, але і з вуснаў самых розных людзей... Першы раз я прыехаў на фестываль у Маладзечна, калі яшчэ жыў і працаваў на радзіме, у Полацку. Мне тады ўсё здавалася сапраўдным святам: і перадканцэртная мітусня, і чэргі па аўтографы ў парку, дзе былі выступленні паэтаў, і, галоўнае, — маладзечанцы — вясёлыя, добразычлівыя, спагадныя...

Пасля гэтага я быў яшчэ на трох фестывалях. І ў якасці госця, і як адзін з арганізатараў, бо наш творчы саюз ніколі не быў убаку ад арганізацыі правядзення гэтага свята. Недзе перад мінулым фэстам, гады два таму, нават пачало закрадвацца сумненне: ці не "выдыхнуўся" фестываль, ці не заела яго іржа фармалізму і абыякавасці?..

Але да гонару "матора" праекта, нястомнага Міхала Якаўлевіча Фінберга, ён набыў другое дыханне. І вельмі хочацца, каб гэты парыў, гэты высокі запал памножыўся сёлета. Нам ёсць чым ганарыцца, нам ёсць пра што спяваць і пісаць вершы. Хай жа і сёлета пад высокім і зорным маладзечанскім небам вольна і шырока лунае наша роднае слова, хай людзі далучаюцца "сэрцам і думамі" да яго прыгажосці і велічы!..

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**



**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

## ПЕСНЯ

*У кожнай песні*
*тоіцца душа,*
*У кожным гуку*
*тоіцца натхненне.*
*І новае*
*чарговае імгненне*
*Пачаткам песні*
*робіцца спярша.*

*Ты ёй руку падай!*
*І затрымай*
*Пяшчотных зыкаў*
*ціхае дыханне.*
*І прыйдзе*
*нечаканае адхланне,*
*І ў сэрцы*
*ажыве далёкі май.*

*Пральецца з неба*
*раптам зарапад,*
*І зноў жаданне*
*ў сэрцы уваскрэсне.*
*І будзе цэлы свет*
*адзінай песняй, —*
*Бялюткі,*
*яркі,*
*бы вясновы сад.*

***НА ЗДЫМКУ: паэт — і аркестр.***
***Фота Г. ЖЫНКОВА***



# ПРАРОЧЫ СОН?..

Маладзечна – гэта ладная частка маёй біяграфіі, біяграфіі маёй душы. Тут я 10 гадоў працаваў загадчыкам літаратурна-драматычнай часткі абласнога драмтэатра, па дарозе сюды і назад (у Мінск) напісаў добрую сотню вершаў, некаторыя з якіх, аздобленыя музыкай, сталі песнямі, жывуць і сёння ў спектаклях Мінскага абласнога драматычнага тэатра, гучалі на адкрыцці і закрыцці фестывалю "Маладзечанская сакавіца", а таксама падчас Нацыянальнага фестывалю беларускай паэзіі і песні.

Памятаю, з якім хваляваннем чакаў у канцэртнай зале "Мінск" (фестываль у той год праводзіўся ў сталіцы) выканання Алесяй Гайдук адной са сваіх першых песень "Залатыя арэлі сноў" (музыка Алега Елісеенкава), як сядзеў перад экранам тэлевізара і хваляваўся за Дзіму Мінько, які ў конкурснай праграме спяваў "Калі ў бакал шампанскае наліта..." ("Будзь маёй"; музыка Алены Атрашкевіч), як на мінулым фестывалі ўжо ў якасці госця і ўдзельніка чакаў, калі прагучыць (і ці прагучыць?) мой з кампазітарам Уладзімірам Сарокіным "Малады казак" у выкананні Ірыны Дарафеевай...

На жаль, у праграме сёлетняга, юбілейнага, фестывалю не значыцца ніводнай маёй песні. Ёсць падставы для суму? І так, і не. Чаму, спытаеце, не? Проста нядаўна прысніўся сон, нібы падыходзяць да мікрафона Алена Спірыдовіч і Генадзь Давыдзька і аб'яўляюць: "Словы Міколы Шабовіча, музыка Міколы Яцкова. "Падбяры мне песню". Спявае..." І тут я прачнуўся, так і не пачуўшы імя выканаўцы. Цікава, хто ж мог яе праспяваць? Можа, Якаў Навуменка? А можа, Леанід Нікольскі? Ці мо сам Яцкоў прыехаў з Магілёўскага раёна і забраў усе апладысменты, як і тады, калі мы з Навумам Гальпяровічам прэзентавалі свае кніжкі ў Маладзечне...

Вы не ведаеце, для чаго сняцца сны? Можа, для таго, каб аднойчы збыцца...

**Мікола ШАБОВІЧ**




## ПАДБЯРЫ МНЕ ПЕСНЮ

**Словы Міколы Шабовіча**
**Музыка Міколы Яцкова**

*Падбяры мне песню, падбяры*
*Тую, што яшчэ не адспявана.*
*Нам з табою, што ні гавары,*
*Разам быць яшчэ наканавана.*

*Прыпеў:*

*Хай яна ліецца праз акно*
*У вышынь, дзе зорная завея.*
*Моўчкі п'ю гарбату, як віно,*
*І не разумею, што п'янею.*

*Падбяры мне песню, я прашу,*
*Падбяры такую, як ты хочаш.*
*Хай яна сагрэе мне душу,*
*Раскалыша думы апаўночы.*

*Прыпеў:*

*Хай яна ліецца праз акно*
*У вышынь, дзе зорная завея.*
*Моўчкі п'ю гарбату, як віно,*
*І не разумею, што п'янею.*

ЗАХАРАВА, 19



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

**прымае да разгляду:**

***выдавецкія праекты самай шырокай тэматыкі;***
***выканае ўвесь спектр рэдакцыйна-выдавецкіх паслуг (ад рэдагавання рукапісу да выдання і распаўсюджвання кніжнай прадукцыі);***
***арганізуе рэкламу і прэзентацыю выданняў.***

**Вул. Захарава, 19, тэл.: 284-85-25.**

Выдавецкая ліцэнзія — ЛВ № 570 ад 23 кастрычніка 2002 года, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; E_MAIL gazeta_lim@tut.by.**




Адбылося чарговае пасяджэнне "Літаратурнага квартала". Яно было прысвечана разгляду творчасці Таццяны Будовіч. З думкамі пра паэзію Таццяны выступілі В. Трэнас, Т. Барысюк, Н. Капа, К. Тычына, Д. Лосева, Р. Малахоўскі, І. Клепікаў, М. Кандратаў, У. Гарачка, М. Казлоўскі, Н. Кучмель, З. Арцюх, Я. Рамяніца, А. Бязлепкіна, А. Спрынчан, С. Патаранскі, А. Ключнікаў і П. Астравух. Сябры суполкі, дзякуючы свайму кіраўніку Л. Рублеўскай, змаглі паглядзець па відэамагнітафоне сюжэты (ішлі па БТ) пра творчасць Т. Будовіч і В. Трэнас, а таксама відэаздымкі зробленыя А. Спрынчан у час паездкі літкварталаўцаў на Лысаю гару.

Наступнае пасяджэнне "Літквартала" адбудзецца ў ліпені.

**Тэлефоны для кантактаў: 284-79-65, 256-75-41.**

# ПАЭЗІЯ, ТАБЕ ЗАЎЖДЫ ЁСЦЬ МЕСЦА

**Нараджаюцца, ствараюцца цікавыя радкі і тады, калі пісьменнік, паэт перажывае не лепшыя часы свайго быцця. Гэта справядліва і ў дачыненні Тамары Лазнюхі, якая сёлета выпусціла кнігу ўласных вершаў пад назваю "Незамерзающий причал". Многія з твораў у ёй прасякнуты горыччу і сумам — відаць, таму, што не дужа вясёлым, радасным было і само жыццё паэтэсы. Выдадзены зборнік вершаў Т. Лазнюхі ў Пінску, на Палессі. Адлюстравалі творы, якія ўвайшлі ў гэтую кніжку, пачуцці і перажыванні Тамары з нагоды розных акалічнасцей яе лёсу: чалавечага, жаночага. Рамантычныя і глыбінна-трагічныя, светлыя нягледзячы ні на які змрок, што ахутвае цябе і твае надзеі... Усё гэта блізка і знаёма жаночаму сэрцу. Дарэчы, у зборнік уключаны і вершы, напісаныя на беларускай мове. Пра што яны, гэтыя творы? Марнае чаканне тэлефоннага званка ад каханага і жаданага, боль і роспач ад усведамлення непазбежнасці і недарэчнасці расстання... Фізічныя пакуты, ад якіх не існуе ніякіх лекаў... Кволую надзею на тое, што некалі неяк усё наладзіцца , выправіцца...**

**Вершы, створаныя на самоце і напоўненыя верай у адраджэнне, здавалася б, незваротна страчанага — гэта выклікае запытанне і жывы спачувальны водгук. Але жыць так не будзеш: сумуючы, спадзеючыся, адчайваючыся да бясконцасці...**




**Таму лірыка Т. Лазнюхі выклікае зусім не адназначную рэакцыю. Прыцягваючы і адштурхоўваючы. Адчуваюцца ў ёй, з аднаго боку, даверлівасць шчырага сэрца, дабрыня і чуласць аўтаркі. З другога боку, прысутнічаюць у зборніку і ноткі безвыходнага адчаю, расчаравання, песімізму. Паэтка з вышыні свайго жыццёвага досведу спрабуе асэнсаваць тое, што адбылося з ёю самой і з іншымі, — ды, аднак жа, у кожнага з нас сваё ўяўленне пра шчасце, як і пра ўсё астатняе.**

**Ведаю, што Т. Лазнюха ўжо даўно займаецца літаратурнай творчасцю — па меншай меры, гадоў дзесяць (а то і болей). За гэты час у яе назапасілася многа жыццёвых уражанняў, яна навучылася выказваць свае пачуцці ў мастацкім слове. Паэтка — чалавек, які прайшоў праз вялікае гора. Злыбяда можа або зламаць, знішчыць характар, або загартаваць яго, зрабіць мацнейшым. Думаецца, з Т. Лазнюхай адбылося якраз другое. Слова "інвалід" у дачыненні да гэтай жанчыны чамусьці ўжываць не хочацца.**

**Мяркуйце самі:**

***Шчыра сонейка ў вокны струменіць,***
***Я хвалююся, нібы дзіця:***
***— Дзякуй, Божа, за шчасця імгненні***
***З залацінкай на крылах жыцця.***

**Ці такія радкі, якімі хацелася б і завяршыць гэты водгук на паэтычнае слова Т. Лазнюхі:**

***Узмацняе на Госпадніх сцежках***
***Кожная хвілінaчка цяпла —***
***Вось і зараз радасная ўсмешка***
***Кветкаю на вуснах расцвіла.***

**Паэтэса закончыла Мінскі тэхналагічны тэхнікум, працавала на Пінскай фабрыцы мастацкіх вырабаў, выгадавала дзяцей. І... цягам дваццаці гадоў не можа рухацца. Але ніхто і ніколі не скажа ўжо, што яе жыццё не атрымалася, "не адбылося". Выйшла дзве кнігі вершаў (першая з іх мае назву "Полет души"), вершы друкаваліся ў часопісах "Акно" і "Пачатковая школа", "Белые снегири" ў Маскве і "Встреча" ў Барнауле, а таксама ў калектыўных зборніках. Гучыць яе паэтычны голас насуперак жорсткаму лёсу.**

**С. Я.**



# КРЫЎСКІЯ САНЕТЫ МІНСКЕВІЧА

Не ведаю нават, з чаго пачаць... Хіба што з эпіграфа да "Крымскіх санетаў" Адама Міцкевіча, які скарыстаў вядомыя словы нямецкага класіка Гётэ: *"Хто хоча зразумець паэта, той павінен пабываць на яго Айчыне"*. Дарэчы, Серж Мінскевіч, пішучы свае паралельныя санеты (альбо санеты наўздагон), чамусьці не скарыстаўся падобным эпіграфам, часова пазычыўшы яго, скажам, хоць бы з найноўшай беларускай "класікі" (маю на ўвазе "Бум-Бам-Літ", безыдэйны маніфест якога да гэтай пары спавядае наш аўтар). Бо на гэтым эпіграфе з Гётэ многае трымаецца ў згаданых санетах Адама Міцкевіча, і, як мне падаецца, яшчэ больш разумелася б у "мінска-менскіх санетах" Сержа Мінскевіча...

Праўда, не будзем забываць, што не ў стылі сучасных постмадэрністаў — "грашыць" класічнай формай, хоць, як вядома з той самай класікі, нават "суровы Дант не пагарджаў санетам"...

Наколькі я памятаю, на пачатку свайго літаратурнага шляху Сяргей (тады яшчэ ўсё — Сяргей, а не Сяржук і тым больш не Серж!) Мінскевіч практыкаваў не толькі розныя (падчас экстравагантныя) формы вершаскладання, але і неардынарныя стылёва-філалагічныя падыходы да вырашэння іх паэтычнага зместу. Вось, да прыкладу, што ён пісаў у прадмове да свайго першага амаль дзесяцігадовай даўнасці зборнічка "Праз галерэю": *"Той, хто жадаў пазнаёміцца са звыкла-дабротна-клясычнымі вершамі, пэўна, спачатку расчаруецца, бо ў кнізе сабраныя творы транслёгічныя, але гэта не азначае, што творы зусім не чытэльныя.* Наадварот, *некаторыя зь іх успрымаюцца, на адным сваім пэўным узроўні, вельмі лёгка, і ніхто не прымушае шукаць транслёгічныя пераходы да іншых узроўняў, проста, калі ўзьнікне падобная цікавасьць, то заўсёды будзе гэткая магчымасьць. І ўвогуле, раім не адкладаць у глыбокую кішэнь пачуцьцё гумару"*. Па тым часе падобнае галантнае "перапрашэнне" ў нейкай меры чытача суцяшала... але наўрад ці задавольвала яго, калі той (асабліва непадрыхтаваны і слабанервовы) натыкаўся на гэткія аўтарскія характарыстыкі:

*"Я — чалавек-фалас,*
*І мне замінаюць вушы*
*Лашчыць нябёсныя похвы".*
*Альбо:*
*"Гарыць пухтар*
*Лятаюць мухі.*
*Хаду спыніў мулнар,*
*Ў штаны засунуў крукі?".*

Як і ва ўсякім чалавечым жыцці, у літаратуры таксама нішто не праходзіць дарма, і нават падобныя вершаваныя забавы аднойчы ўсё ж завяршаюцца. І насамрэч, — мінуўся час, паэт пасталеў і пабраўся з Музай "на законных (аўтарскіх) правах" (як шуткаваў адзін мой знаёмы: *жаніўся з налопу, не паглядзеў, а ў яе ногі крывыя, але люблю, братка, бо гэта ж цяпер і мае ногі)...*

І ўсё ж, калі не ёй (уласнай Музе), то ва ўсякім разе мне, падараваны зборнічак С.Мінскевіча зрабіў адну неацэнную паслугу — змусіў наноў, няспешна і з асалодаю, перачытаць ужо прызабытыя мной "Крымскія санеты" Адама Міцкевіча. Больш за тое, мой добры знаёмец Валодзя Васілевіч "абклаў" мяне ўсімі чатырма памежнымі тэкстамі гэтых Міцкевічавых твораў: на арыгінальнай польскай, украінскай (з найбольш шырокімі тлумачэннямі і заўвагамі), рускай і беларускай (1953 года выдання) мовах... Тыдні два я ўсё гэта пераасэнсоўваў познімі бяссоннымі вечарамі.

І шкада, што выпадае пісаць не пра іх, а пра "мінскія санеты" маладога сучаснага паэта. Усё ж, будзем шчырымі, — гэта рэчы далёка не параўнальныя (дзе Крым, а дзе Мінскевіч?!)...

Як піша ў сваёй "пасьлямове" да вершаванага зборніка С.Мінскевіча яго тавaрыш Андрэй Хадановіч: *"Жадаючы ашчасьлівіць сьвет сваімі ўрачыстымі санэтамі, паэт дазнаецца, што перад ім ужо быў Міцкевіч з Крымскімі санэтамі. Які ўдар ад клясыка! Але талерантны постмадэрніст заўсёды гатовы падставіць і другую шчаку — і пасьлядоўна, твор за творам, перапісвае Міцкевіча, робячы папраўку на новую эпоху й менскую гарадзкую тапаграфію"*, — праўда, не прамінуўшы ўрэшце дадаць, што *"сучасны паэт бачыць абмежаванасьць уласных магчымасьцяў, але ня робіць з гэтага трагедыі."* Дарэчы, вельмі тонкая і важная, хоць і іранічна пададзеная характарыстыка сучаснага "краснага пісьменства" (спадзяюся, што такі інтэлектуал, як А.Хадановіч, зрабіў яе свядома і наўмысна).

Агулам жа мне падалося, што прадмова Інэсы Кур'ян, як і ўпомненае пасьляслоўе, не дадалі зборніку цэльнасці (не ўвялі й не вывелі чытача з "лабірынта" постмадэрновых практыкаванняў аўтара, падчас, зазначу, выбітных і вартых увагі). Занадта ўжо шмат іроніі, ёрнічання і проста літаратурнага сцёбу на публіку ў абодвух памежных "мытнікаў" амаль сур'ёзнай паэтычнай кніжкі Сержа Мінскевіча. (Спадзяюся, аўтар санетаў не меў нават і подумкі парадзіраваць класічныя санеты знанага земляка Адама Міцкевіча.) Данельга раздражняюць, скажам, такія слоўныя эскапады І.Кур'ян, калі яна пачынае ўяўляць мінчука Мінскевіча *"драўляным слупом электраперадач, на які бясьпечна садзяцца"* яе *"птушкадумкі"*, між іншым запэўніваючы нас, што іх сумеснае (з Мінскевічам) *"паэтычнае матляханьне нарадзіла пару спробных мінскіх вершаў, пасьля якіх паэтычна разварушаны Мінскевіч раптам выдаў тое, што назвалася Мінскімі санэтамі"*...

Нельга не заўважыць, што сучасная літаратура і культура ўвогуле (кіно, тэатр, тэлебачанне) "засланіліся" ад сваіх "духоўных спажыўцоў" мутнавата-празрыстай плёнкай іроніі, сцёбу і абсурду... Не думаю і не бачу, каб за гэтым палягалі нейкія высокія ідэі, творчыя прароцтвы ці мастацкія адкрыцці. Гэта гульня ў шарады, прыхоўванне ўласнага твару за клейка-прывабнай маскай тэхнічна і досведна скампанаваных твораў... І яшчэ яно — ад мастацкай і творчай немачы. Вышэйзгаданымі прыёмамі падобныя слабасці ў большасці постмадэрновых тэкстаў і рэтушуюцца. У звязку з гэтым хацелася б напомніць верш Роберта Фроста "Адкрыццё" (на жаль, у перакладзе на рускую):

*"Мы спрятались за блеском строк,*
*В стихах нашли себе приют, —*
*Но сколько страхов и тревог,*
*Пока нас люди не найдут!*
*Сперва мы новое творим*
*И непривычное совсем,*
*Потом — все проще говорим,*
*Лишь было бы понятно всем.*
*Как в прятках нашей детворы,*
*Как в тайнах нашего Творца, —*
*Чтобы не выйти из игры,*
*Нельзя таиться без конца!"*

Ёсць у сённяшняй творчай моладзі і адчуванне разгубленасці перад складанасцямі сучаснага жыцця; немалаважнае значэнне мае і адсутнасць (нястворанасць) творчых біяграфій і драматургічная (драматычная) *непрапісанасць* паэтычнага лёсу. Тады як *"кожны напраўду амбітны літаратар сьпіць і сьніць, калі ж яго культурныя заслугі перад айчынаю будуць ацэненыя й ушанаваныя"*, — піша А.Хадановіч, а І.Кур'ян абсалютна справядліва зазначае, што *"стары Мінск малалюдны, таму і колькасьць паэтаў на колькасьць культурна каштоўных квадратных мэтраў вельмі малая."*

А яшчэ мне падаецца, што наша нацыянальная літаратура перажывае свой чарговы духоўны ўпадак, што пачаўся з помных часоў стыхійнай і анархічнай "перестройки" і цягнецца ажно да гэтага, ужо суверэннага часу, які пакуль не прынёс пэўнага выяўлення новага, неўпрыкмет страчанага, вобраза станоўчага (высокамаральнага) героя.

Першы ж уздым нацыянальнай літаратуры адбыўся ў прамежку 1910 — 1927 гадоў; затым быў глыбокі спад (1930 — 1956 г.г.); другі ўздым — з 1961 да 1986 года... Хіба лепшыя творы гэтага "адліжна-застойнага" часу *(да прыкладу, аповесці В.Быкава ("Мёртвым не баліць", "Сотнікаў", "Знак бяды"), паэма "Варшаўскі шлях" А.Куляшова, лепшыя вершы і "Лісткі календара" (па часе публікацыі) М.Танка, аповесць "Ніжнія Байдуны" Я.Брыля, проза для дзяцей А.Васілевіч, раманы "Людзі на балоце" І.Мележа і "Чужая бацькаўшчына" В.Адамчыка, лепшыя грамадзянскія вершы П.Панчанкі, выбітная проза М.Стральцова і прыгодніцка-гістарычныя аповесці Ул.Караткевіча, першыя зборнікі паэзіі Р.Барадуліна, паэзія А.Вярцінскага, А.Наўроцкага, Д.Бічэль-Загнетавай, Я.Янішчыц і нарэшце "Шлях-360" А.Разанава)* можна параўнаць з адметнымі літаратурнымі тэкстамі сённяшніх паэтаў і празаікаў, нават тых, дзякаваць Богу, яшчэ жывых, хто толькі што ўпамінаўся ў вышэй прыведзеным пераліку?..

Але, на мой неабавязковы погляд, і яны ўсё-ткі цэментуюць той фундаментальны падмурак, на якім, пры добрым і спрыяльным для беларусаў грамадскім і палітычным раскладзе, можа неўзабаве ўзняцца светлы духоўны храм краснага пісьменства, выяўляючы тым самым і далёкую перспектыву нашай нацыянальнай будучыні...

(Будзем спадзявацца, што і "мінска-менскія санеты" Сержа Мінскевіча будуць таксама адной з тых цаглінак, што годна лягуць у фундамент агульнага духоўнага збудавання ці хоць бы ў скарбніцу нашай новай Нацыянальнай бібліятэкі...)

Ну, панесла мяне... Трэба варочацца назад...

Дык вось, што да санетаў Сержа Мінскевіча, то тэматычна яны напісаныя паводле аддаленых асацыяцый на *"Крымскія санеты"* Адама Міцкевіча, *"выгнанца, якога ніхто не клікаў, патрыёта, які і сярод арыентальных пейзажаў шукае знаёмыя абрысы, намагаецца не страціць сувязяў са сваім родным і крэўным"*. Ёсць у двух гэтых непараўнальных аўтараў унутраныя перагукі, вобразныя, а то і проста вонкава-алітэрацыйныя — назоўныя. Скажам, у А.Міцкевіча — "Акерманскія стэпы", а ў С.Мінскевіча — "А кірмаш камароўскі як стэп" альбо "Байдары" — "Байдаркі", "Дарога над прорвай у Чуфут-Кале" — "Дарога над ямай", нарэшце, "Пілігрым" і — "Пілігрым"...




Усяго васемнаццаць санетаў. Як у *класіка,* так і ў *постмадэрніста* (няхай будзе ім, калі ўжо так карціць). Але ў апошняга яны падзеленыя на дзве роўныя часткі — па восем: на "Мінскія санеты" і "Менскія санеты". Сучасны Мінск і гістарычны Менск. Мне думаецца, што ўсё ж трэба прыцытаваць па адным санеце абодвух аўтараў, каб чытач займеў хоць нейкае ўяўленне, пра што тут вядзецца. Працытуем самыя першыя. "Акерманскія стэпы" А.Міцкевіча:

*Я выплыў на прастор сухога акіяна;*
*Воз, быццам лодка, тоне, ў зелені*
*нырае,*
*У хвале кветак, шумных траў, мінаю*
*Здалёк каралавыя астравы бур'яну.*
*Цямнее. Не відаць ні шляху, ні кургана.*
*Для лодкі пуцяводных ў небе зор*
*шукаю;*
*Там воблака блішчыць? Ці золак*
*там палае?*
*Не, гэта — Днестр і ўсходзіць лямпа*
*Акермана.*
*Як ціха! Спынімся! Я жураvоў лёт чую,*
*Якіх бы нават сокал быстры*
*не ўглядзеў;*
*І як матыль калыша кветку палявую.*
*Як з шорахам вуж прапаўзае недзе.*
*У гэткай цішыні так чутка ўсё лаўлю я,*
*Што ўчуў бы гук з Літвы. — Ніхто*
*не кліча, едзем!*

Шчыра кажучы, як на мой густ, то гэта не надта ўдалы пераклад М.Танка. Пры ім санет С.Мінскевіча "А кірмаш камароўскі, як стэп" у вачах чытачоў не тое што не прайграе, а хутчэй — наадварот:

*Выходжу на прасцяг гудлівай*
*Камароўкі,*
*Я сам, нібы ладзьдзя, а сьпіна —*
*ветразь мой,*
*Нясе штурханьняў брыз мяне ў людзкі*
*прыбой,*
*Між выспаў лавак я лявірую, нялоўкі.*
*Змрачнее мне ў вачах ад прапаноў*
*абноўкі.*

*Гародніна ляжыць пярэстаю гарой.*
*А воддаль, як маяк над пеннаю вадой,*
*Ільсьніцца на круку бок беднае кароўкі.*
*Пастой! Ачуемся... Шмат што*
*чуваць наўкруг:*
*Гандлюе бабка дзесь салёнымі гуркамі,*
*Вужаку-кілбасу вунь дзед прыдбаць*
*нацяміў,*
*За выйсьцем люд жуе — там пахне*
*шашлыкамі.*
*Пачуеш нават дождж, як абвастрыш*
*свой нюх.*
*Тут безьліч водараў — дзе ж беларускі*
*дух?*

І ўсё ж не будзем забываць: там — не зусім удалы пераклад, а тут — адзін з лепшых аўтарскіх арыгіналаў. Абмовімся для "бдящих за блеском установленного временем классического порядка", што гэта ў нашым выпадку рэдкае выключэнне, а не правіла.

Адам Міцкевіч прысвяціў свае санеты "сябрам крымскага падарожжа", а Серж Мінскевіч прысвячае іх сваім таварышам па "Бум-Бам-Літу", пра што наўпрост і агалошвае ў адным з санетаў:

*На сьцежках паркавых завод мірсьціўся*
*Севу,*
*А Жыбуль баяў нам пра ўсьмешкі*
*мерцьвякоў,*
*У гэты час труну сваю цягаў Вішнёў,*
*І Сіна забіваў раз пяты Бахарэвіч".*

Аднак гэта ўсяго толькі "традыцыйная" даніна постмадэрнізму і не больш за тое. Пераважна ж С.Мінскевіч, наколькі яму дазваляе талент (не забудзем, не даючы пры гэтым літаратурнай ацэнкі, што ён пераклаў на беларускую мову такі вялікі ва ўсіх вымярэннях паэтычны твор, як "Дзяды" таго ж Адама Міцкевіча) стараецца не аддаляцца ад унутранай патрыятычнай фабулы Міцкевічавых санетаў. Гістарычная тэматыка маладога паэта сягае ад 1067 (па сутнасці, першага гістарычнага ўпамінання горада ў "Аповесці мінулых гадоў") да сённяшніх дзён. Паэту, да яго гонару, не так важная фіксацыя самога факта, як яго духоўны і нацыянальны сімвал. Паэтычны вобраз у С.Мінскевіча не размывае, а "ўдакладняе" не толькі пэўную эпахальную падзею гарадскога жыцця, але і, непрыкметны для гісторыі, лёсавы зрэз прыватнае асобы. Ад гэтага па старонках зборніка, як па жылах адзінакроўнага жывога арганізма, пульсуе эпахальная айчынная кроў, не выветрываючы і не астуджаючы яго спрадвечна ўдуманага зместу.

*"Таксама вось і я у горадзе сваім*
*Як быццам прыхадзень, турыст і пілігрым.*
*Перада мной ляжыць край родны,*
*край знаёмы,*
*І разам з тым — чужы, нязносны,*
*невядомы.*
*І колькі трэба шчэ прайсці па ім, у ім,*
*Каб я вярнуцца змог назад, ізноў*
*дадому".*

То дзіва! Бо нават тыя аддаленыя (найперш грозныя) водгукі нашай гісторыі, шматкроць паўтараючыся, як бы нічому не вучаць нас. Таму наканаванне і абавязак паэта — НАПАМІНАЦЬ:

*"Зь Нямігі з той пары вады шмат уцякло,*
*Ня раз быў зьнішчаны — ды адраджаўся*
*Менеск,*
*Бы на крыжы дарог бусьлянку*
*зладзіў Фэнікс,*
*Жыхарства горада ўзяў пад сваё крыло...*
*Яны ж ня ведаюць пад левым стаць,*
*пад правым.*
*Міжсобку сварацца — да крыўды, бойкі,*
*сьлёз —*
*Хто разумней абраў, дзе выгаднейшы*
*лёс.*
*А крыж прымерыўшы, жадаюць быць*
*Варавам..."*

Што ж: *"Маленькі парастак руйнуе моц бэтону!"* — метафарычна паўтарае ўсім вядомае С.Мінскевіч. І насамрэч, хоць у зборніку няшмат асаблівых паэтычных адкрыццяў, але да літаратурных няўдач гэты аўтарскі праект залічваць нельга. Тым больш няма сэнсу засяроджвацца на дробных праліках сталічнага паэта на загадзя прыцягнутым ім ахоўным фоне вялікага польскага класіка Адама Міцкевіча. Бо, як піша пра С.Мінскевіча А.Хадановіч: *"Ён разумее сьціплае месца паэта ў сёньняшнім антыпаэтычным сьвеце. Яго герой чытае свае вершы на сьметніку, і гэта не павінна зьдзіўляць, бо ў Менску, калі верыць аўтару, на кожным сьметніку сядзіць па паэту"* (якая палярная разбежка з вышэй прыведзеным тут выказваннем І.Кур'ян!). Умеюць падаць сябе — чытай: узвысіцца на пастаменце самапрыніжэння — гэтыя постмадэрністы! Таму — насуперак сказанаму — завершу гэтую сваю дылетанцкую пісаніну пра класічны санет цытатай з апошняга "Крымскага санета" Адама Міцкевіча "Аюдаг" у выдатным на гэты раз перакладзе М.Аўрамчыка:

*"Не раз табе на сэрца, малады паэт,*
*Так буру хвалявання пачуццё прыгоніць;*
*Ды толькі ўздымеш ліру, каб здзівіць*
*ёй свет,*
*А пачуццё ўцячэ у забыцця бяздонне*
*І песні бессмяротнае пакіне след,*
*З якіх вякі сплятуць вянок табе на скроні".*
О то ж, каб так...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

МАЯ ПЕРШАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ

***Можна ўсё жыццё пісаць вершы, прозу, але не друкавацца. І тое, што табой створана, але не абнародавана, ніколі не стане культурным набыткам краіны, якую ты апяваеш у сваіх творах. У кожнага пісьменніка, які вядомы чытачам, у жыцці быў момант першай публікацыі. І вось пра той незабыўны час рэдакцыя "ЛіМа" просіць нашых аўтараў падзяліцца сваімі ўспамінамі. Першаму даецца слова Яўгену МІКЛАШЭЎСКАМУ, як ініцыятару новай лімаўскай рубрыкі.***

Не ўсё так і кепска ў нашым жыцці. У рэшце рэшт прыходзіць час, калі ты можаш на законных падставах заняцца і ўспамінамі. І гэта датычыць першнаперш людзей творчых прафесій, а потым публічных палітыкаў і ўсіх астатніх.

Такія ўспаміны патрэбныя як ім (я маю на ўвазе толькі людзей творчых прафесій, а не ўсіх астатніх), так і гісторыі нацыянальнай культуры.

Чаму гісторыі, больш-менш зразумела. Аднак навошта гэта патрэбна самім аўтарам успамінаў? Відавочна, каб нешта сказаць пра сябе і свой час, але, пішучы вершы з дванаццацігадовага ўзросту, я не імкнуўся пахваліцца гэтым, наадварот, рабіў усё, каб пра маё тайнае захапленне ніхто не ведаў — ні настаўнікі, ні равеснікі, ні бацькі. Хоць бацька любіў і добра ведаў паэзію — і не толькі рускую. У яго быў беларускі "Кабзар" (першае даваеннае выданне паэтычных твораў Тараса Шаўчэнкі ў перакладзе на беларускую мову).

Ад каго, ад каго, аднак ад настаўнікаў нічога не ўтоіш, і яны адразу заўважылі маё незвычайнае захапленне літаратурай. І аднойчы я пачуў, як мая "класная", настаўніца рускай мовы і літаратуры, сказала:

Гэта было на пачатку 1959 года. Адказу не было.

І вось у адзін з чэрвеньскіх дзён, захапіўшы з сабой газету "Літаратура і мастацтва", я пайшоў за вёску, на лугавіну, парослую рэдкімі дрэвамі, да якой з поўначы падыходзіў бярозавы гай, дзе я пасля заняткаў тайком сустракаўся са сваёй папялушкай Музай.

Я наўздагад разгарнуў газету, і якраз на той старонцы, дзе была змешчана інфармацыя пра змест чэрвеньскіх нумароў беларускіх літаратурных часопісаў. У кожнага выдання было сваё месца, і першым ішло "Полымя". І мой позірк у адно імгненне выхапіў з шэрагу імён паэтаў, чые вершы друкаваліся ў чэрвеньскім нумары, толькі адно імя... Я перачытваў і перачытваў гэтую інфармацыю да таго часу, пакуль не запомніў яе ад слова да слова.

Выхаду часопісаў заставалася чакаць два-тры тыдні. Я жыў толькі адным: які з двух вершаў, пасланых мною ў "Полымя", друкуецца? Я быў упэўнены, што друкуецца толькі адзін верш. Дык які ж? Адзін верш быў лірычны — пра тое, як мой лірычны герой са сваёй каханай гатуюць вячэру, другі — пра вымову, якую ён атры-

# МАЯ ПЕРШАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ

не менш відавочна, і таму, што ўспаміны пра ўсё тое (а можа, і не толькі пра тое), што і як ты рабіў, і неверагоднае мноства зробленых памылак прымушаюць задумацца і над тым, чаму ты нешта рабіў так, а не інакш і спрыяюць спасціжэнню сябе самога, сваёй чалавечай і творчай натуры, асэнсаванню свайго светапогляду, характару, тэмпераменту (а гэта духоўная аўра, ці энергетыка твайго ўнутранага свету), тых ці іншых прыхільнасцяў і захапленняў, якія падспудна кіравалі тваімі намерамі і не заўсёды найлепшымі ўчынкамі. Зірнуць на сваё жыццё не толькі знізу ўверх, але і зверху ўніз, не толькі цікава, але і карысна, перш-наперш для самога сябе, калі ты хочаш разабрацца ў сваім жыцці і ў сваіх творчых дасягненнях. Адным словам, да той самай сутнасці, пра якую некалі (стагоддзе назад) сказаў вядомы рускі паэт. І дайсці да яе, гэтай сутнасці, як, можа, нішто іншае, дапамагаюць успаміны.

Адкуль у мяне, звычайнага сялянскага хлопчыка, з самых ранніх гадоў з'явілася неадольная цяга да ўсяго прыгожага і дасканалага, прынамсі, — да мастацтва: да жывапісу, да музыкі, да паэзіі заадно з такою ж фатальнай цягай і да мастацкай творчасці? І адно такое пытанне цягне за сабою мноства іншых. Адказы на некаторыя з іх я знайшоў, на некаторыя — не.

Па сваёй натуры я непапраўны рамантык, з вельмі тонкімі нервамі, з незвычайна абвостраным успрыманнем жыцця — дабра, зла, справядлівасці.

Паэзія для мяне — гэта выяўленне майго ўнутранага свету, самых нязначных зрухаў апантанай душы, і я не мог нават падумаць, што прыйдзе час і паэзія ператворыцца ў інтэлектуальную гульню. І духоўнае жыццё чалавека будзе выціснута з паэзіі, і правіць баль у ёй пачне розум, сумбурны і прагматычны, нечакана выйшаўшы са сферы духоўных прынцыпаў, а чалавечая душа ператворыцца ў духоўную пустэльню, на якой не толькі не квітнеюць кветкі, але не расце і мох.

Аднак я адхіліўся ад тэмы. А сказаць я хацеў пра тое, што мае ўспаміны пра вытокі захаплення паэзіяй паставілі перада мной пытанні, адказу на якія ў мяне няма. Чаму,

"Пабачыце, ён стане кандыдатам філалагічных навук".

Аднак самае цікавае тое, што я зусім не хацеў быць кандыдатам філалагічных навук. Я хацеў быць паэтам і, не з'яўляючыся кандыдатам, ведаць болей, чым ведаюць пяць такіх кандыдатаў разам узятыя. І я камусьці з нейкай нагоды пра гэта сказаў. Адказ быў для мяне нечаканы, і я запомніў яго на ўсё жыццё: "Ох, і цяжка будзе табе, мой хлопчык, жыць з такімі поглядамі..."

І ён не памыліўся: мой жыццёвы шлях (а пра літаратурны я ўжо і не кажу) не толькі цяжкі, але і ўвогуле незразумелы.

І праўда, чаму я на працягу трох гадоў жывучы ў Нясвіжы і маючы некалькі сшыткаў вершаў, ні разу не схадзіў у рэдакцыю раённай газеты і не паспрабаваў што-небудзь надрукаваць? Не паказаў я сваіх вершаў і выкладчыку беларускай літаратуры. А выкладаў беларускую літаратуру ў Нясвіжскім педвучылішча паэт Паўлюк Пранузя.

Тое ж і ў Пінску. Аднак у Пінску я асмеліўся зрабіць першы крок у напрамку да таемнага Парнаса і паслаў у часопіс "Полымя" свой першы верш "Па народных матывах", напісаны ў форме стылізацыі пад народную творчасць (надрукаваны ў зборніку "Світальны водбліск", 1981, над назвай "Жнівеньскае").

Адказ за подпісам Анатоля Вялюгіна прыйшоў хутка і пачынаўся словамі: "Вам трэба болей пісаць вершаў".

Мяне найбольш узрадавала тое, што мой верш прачыталі ў "Полымі" і ў першую чаргу Максім Танк. Вырашылі — пісаў Анатоль Вялюгін на палымянскім бланку, ад рукі — гэты верш не друкаваць, а пачакаць маіх новых вершаў.

Гэта было ў 1957 годзе. Я скончыў Пінскае педвучылішча і паехаў працаваць загадчыкам Вяліка-Вулькаўскай пачатковай школы (за дваццаць кіламетраў на паўночны захад ад Пінска).

Паэзія на нейкі час саступіла месца напружанай працы ў школе (школа была аднакамплектная). Але я ні на хвіліну не забываў пра тое, што ў "Полымі" ч а к а л і маіх вершаў.

Я доўга выбіраў, што пасласць, і ўрэшце, акуратна перапісаўшы, паклаў у канверт два вершы: "Любая і дарагая" і "Вымова".



маў за тое, што не здаў у час справаздачу. Верш, як мне здавалася, быў напісаны весела, з усмешкай.

Мне нечакана прыходзілі то адны, то другія радкі (і з аднаго, і з другога верша), якія здаваліся мне не зусім дакладнымі ці нават проста дрэннымі... Тым не менш, неверагодная радасць насіла мяне над зямлёй на сваіх таямнічых крылах.

Падрыхтаваўшы школу да наступнага навучальнага года, у другой палове чэрвеня я паехаў у адпачынак — да маці, у вёску Сычы. У Сычоўскую бібліятэку прыходзілі тры часопісы: "Полымя", "Маладосць" і "Работніца і сялянка". І можна без ніякага перабольшання сказаць, што я на працягу тыдня і дняваў у ёй, і начаваў, пакуль у адзін цудоўны дзень "Полымя" ў рэшце рэшт не апынулася ў маіх руках. У чырвона-зялёных мяккіх вокладках, яно кідалася ў вочы здалёк.

Я глянуў у змест — "Любая і дарагая..."

Гэты верш надрукаваны ў маім апошнім зборніку "Зара-заранка — зара-вячэрніца", які выйшаў у 1989 годзе, чатырнаццаць гадоў назад. А верш "Вымова", так і застаўся ненадрукаваным.

А купіў я гэты нумар "Полымя" ў Баранавічах, куды паехаў у наступны ж дзень.

**Яўген МІКЛАШЭЎСКІ**

# НА МАТЭРЫЯЛЕ ВАЙСКОВЫХ ДЗЁННІКАЎ

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" летась выпусціла ў свет цікавую кніжку — раман Івана Кудраўцава "Мая вайна: з памяці здабытае". Гэты твор аўтар напісаў на падставе сваіх франтавых успамінаў. Таму ёсць у рамане дэталі і падрабязнасці, якія выяўляюць глыбокае веданне пісьменнікам рэалій вайсковага жыцця, побыту франтавікоў. У мастацкай, досыць займальнай форме І. Кудраўцаў апісвае бітвы, у якіх даваялося яму ўдзельнічаць. Неабыякавым застаецца раманіст і да сяброўскіх дачыненняў з таварышамі па службе, ваенных дзеянняў. Франтавая дружба, мусіць, адзін з найбольш моцных відаў сяброўства. Падтрымка баявых таварышаў як мага лепей спрыяла ўмацаванню духу вайсковага калектыву, выхаванню непахіснай веры ў перамогу.

Аўтар рамана расказвае свайму чытачу пра тое, што добра ведае, сам асабіста перажыў, адчуў. Ён непасрэдна ўдзельнічаў у падзеях Вялікай Айчыннай вайны, змагаўся на Заходнім, Варонежскім, 2-м Прыбалтыйскім і Ленінградскім франтах. І, на вялікае шчасце для ўсіх нас, яму ўдалося захаваць, зберагчы для будучых пакаленняў свае вайсковыя дзённікі, якія данеслі да нас атмасферу таго часу. Таму пісьменнік, як, можа быць, ніхто іншы, здолеў, кіруючыся прынцыпам хранікальнасці, паказаць нам усю глыбіню пакут і радасці, наадварот, сціплыя і малыя. Аднак і тады жыццё працягвалася, віравала, бунтавала чалавечую кроў. І ў вайну людзі ўлюбляліся, спявалі песні, марылі пра будучыню і планавалі яе. Вялікая Айчынная перададзена ў рамане І. Кудраўцава вачыма яе сучасніка. У гэтым каштоўнасць і значнасць твора для нашай літаратуры.

Эпапеяй гэты твор не назавеш. "Мая вайна", хутчэй, — нататкі, успаміны, дзённікі, увасобленыя ў мастацкім выглядзе, апрацаваныя аўтарам і акрыленыя ягонай фантазіяй. Вайна, адлюстраваная "знутры", убачаная вачамі яе ўдзельніка, — хіба гэтага недастаткова для таго, каб чытач перагарнуў старонкі рамана з сапраўдным хваляваннем і трапятлівым захапленнем гераізмам нашых людзей? Галоўны персанаж твора — настаўнік Змітрок Брусніцкі. Дзейнічаюць у рамане і вядомы навуковец Канстанцін Шабуня, і сябры-таварышы Брусніцкага па зброі Леанід Сінёў, Сямён Качаргін, а таксама Антон Бабіч, Хадасеўскі, Мозаў, Вераценнікаў і многія-многія іншыя. Раман заканчваецца "хэпі-эндам" — дзяльбою нямецкіх трафеяў... Выданне ажыццёўлена пры фінансаванні з Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва.

Я.

Іван Кудраўцаў

МАЯ ВАЙНА: з памяці здабытае



ПАЭЗІЯ

**Ярына Дашына піша *няправільныя* вершы.**

**Аднак для таго, каб пісаць такія трэба мець талент і ўнутраную свабоду. Па шчаслівай выпадковасці, яны ў яе ёсць. У палешуцкім родзе прадзеда-каваля і бабулі, якая ў свае апошнія дні размаўляла толькі з катом: *"То ж твуй батько і муй батько — рудны браты"*, не магла не з'явіцца тая, што аднойчы, бясслоўна скрычаўшыся, як немаўлё без матчынай цыцкі, заявіць-зажадае сабе і нам:**

***Я хацела б памерці вершамі,***
***на якія паэты ўродзяцца.***

**Кажучы словамі Ярыны з яе ліста да мяне: *"Мужчыну можна дараваць брудны абутак, адсутнасць розуму і грошай, спрэчныя пытанні ў знешнасці і сямейным становішчы, яму нельга дараваць толькі аднаго"* — неразуменне паэзіі (у Ярыны было: *"некахання"*, але ці не адно гэта і тое ж)...**

**Адным словам, паэты жывуць паўсюль — і на асфальце, і на балоце, і на зямлі, і пад небам, і ў Мінску, і ў Клейніках... І словы ў іх адныя і тыя ж — беларускія, а вось песні — розныя. У кожнага — свая, а ў Ярыны Дашынай — *своеасаблівая*. І за гэта ёй можна дараваць многае (бо мой бог і яе бог, то ж браты родныя)...**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

## Ярына ДАШЫНА



***

*Я замкнёная на ключык*
*на чатыры абароты:*
*на чатыры промні Сонца,*
*на чатыры зоркі Ночы,*
*на чатыры колцы Пекла.*
*На чацвёртым — страх калючы,*
*трэці — бездань адзіноты,*
*а другі — палон бясконцы...*
*Ключыкі адно — бразгочуць:*
*"Небяспека! Небяспека!"*

*На апошні і на першы*
*я замкнёная на вершык.*

***

*Мяне кахалі не за тое,*
*за што кахаюць.*
*Я ваявала не за тое,*
*за што ваюць.*
*Таму й на вогнішча такую*
*маладую,*
*за тое, што такая маладая.*

*Хапіла б на паэтаў сотню*
*з нечым*
*таго агню з тае макулатуры.*
*Літаратурка і літаратура*
*не спапялуе — толькі*
*пакалечыць.*
*Я стануся вясёлаю блудніцай,*
*чаго, у перспектыве, ўсе чакалі.*

*Ці бачылі, як полымя скакала*
*і занімалася мая спадніца?*

***

*Я цела тваё,*
*як спектакль-меладрамачка:*
*для кожнага пальчыка*
*ёсць свая ямачка,*
*на кожны выгіб*
*мармурнасць тварожная*
*й табу пацалунка*
*на выпукласць кожную.*

***

*Як быццам ты,*
*як быццам я,*
*як быццам нас з табой з'яднала*
*і перагнула удвая:*
*цябе зашмат, мяне так мала.*
*На памяць стогн,*
*на памяць уздых,*
*на памяць міліметры цела.*
*Адольвала цябе на слых,*
*навобмацак цябе хацела.*

*Напрасткі, напра-*
*лом, унутр,*
*да перасыці уладання,*
*дзе толькі гузік-перламутр —*
*апошняе выратаванне.*

*Дзе быццам мы,*
*дзе быццам спім,*
*як шкельцы у калейдаскопе.*
*Цябе няма... мяне зусім...*
*так мала, што ужо не хопіць...*

***

*калі-небудзь мне б прысніцца*
*ў трыдзесятым сне па-царску*
*каму-небудзь каму-ністкай*
*ў каму-фляжы каму-наркскім*

*з пісталетам і гранатай*
*быць ні ў чым не вінаватай*

***

*Твае вочы — як лесвіца ў неба:*
*я стагоддзі ўзбіралася марна*
*на адвечны спачын.*
*Ты маёй станавіўся патрэбай,*
*я маленькі анёлак каварны —*
*здабыццё пачуццяў.*
*Свае брудныя крылы ты марыў*
*прымяраць да сукеначак модных*
*бессаромных жанчын.*
*Як шматлікая рэч антыквару,*
*да антычнай скульптуры*
*падробка,*
*не каштую жыцця.*

***

*Пасвавольце ў маіх валасах,*
*пацалункаў пакінуўшы пах*
*там, дзе шпілька зрабіла замах*
*на пульсацыю соннай артэрыі.*

***

*Я хацела б памерці вершам.*
*Паміраюць не толькі бяздарныя,*
*паміраюць і горшыя, й лепшыя,*
*і наогул ненапісаныя.*

*Я хацела б ужо не старыцца,*
*бо старое віно удалае,*
*а старая жанчына сварыцца,*
*што такая недасканалая.*

*А я мудрая за мудрэйшага:*
*так шчаслівіцца і пяшчоціцца.*
*Я хацела б памерці вершамі,*
*на якія паэты ўродзяцца.*

## Таццяна БУДОВІЧ



***

*Як з зямлі, што ляжыць*
*над табой,*
*снег сплывае вадой веснавой,*
*да цябе я раблюся бліжэй*
*на бясконцасць зімовых начэй.*
*І не можаш ты не адчуваць,*
*як тут мне беспрытульна,*
*шукаць*
*падабенства жывога твайго.*
*Як пакінуць цябе аднаго*
*замярзаць пад халоднай*
*зямлёй?*
*Замярзаю я разам з табой...*

***

*Хто першы з нас каго пакіне,*
*ці захварэе, ці загіне?*
*Хто застанецца назаўжды*
*ў вясны прасіць жывой вады?*
*Мой вечны суразмоўца! Мне*
*жыццё абрыдла. Я ў вясне*
*шукаю мёртвае вады,*
*каб знішчыць парасткі нуды*
*ў душы знясіленай маёй.*
*І вобраз неўміручы твой...*

***

*Не папросіць аб літасці той,*
*хто жадае быць побач з табой.*
*Не парушыць твой звыклы*
*спакой.*

*А папросіць атруты самота —*
*і душы не адчуць адзіноты.*
*Толькі лета – спякота,*
*спякота...*

*Пасівелыя скроні спакою...*
*Адзінокае сонца сляпое*
*адплывае наўслед за тугою...*

***

*П.*
*Я чакала натхнення,*
*і вось —*
*каціная сутнасць твая —*
*мяккія лапы*
*гуляюць*
*з маёй*
*адзінотай...*

# ДАБРАДУШНЫ

Леанід МАРАКОЎ

Вясна пабудзіла ў пяць. Жарсць разрывала цела, але жонка яшчэ з вечара (як заўсёды — каб не забываў!) папярэдзіла: «Раніцай не грымець! Хадзіць на пальчыках! Не дай Бог прачнуся раней за дванаццаць, мала не падасца...»

Як у тым анекдоце:

— Хочаце выпіць?

— А чаму б і не?

— Ну, не дык не!

Апошнюю фразу паўтарыў уголас. Усё ж любімая прымаўка адной крывабокай сцервы, якая ледзь не загнала мяне ў магілу (падставіла пад бандыцкія нажы) на заранку юнацтва бесклапотнага.

Снедаў адзін. Нудота. Перакурыў. Жарсць не аціхла, але дзверы ў спальню па-ранейшаму былі зашчэпленыя.

Што рабіць?

Вызірнуў у акно. У двары праходжвалася суседка: вывела на прагулку свайго любімца — шэрага, амаль нябачнага на фоне асфальту пудзеля Бубліка, вялікага ахвотніка да мясцовых дам-с. Так, здаецца, невідзімкай да іх і падкрадваўся. Шустры кавалер...

Вырашыў не адставаць. Апрануўся, спусціўся: калі што — а што? — хадзіў па пошту, асвяжаўся-прачынаўся, дыхаў! Прайшоўся ўздоўж сцяны. Ля апошняга вуглавога пад'езда стаіўся: чакаў, пакуль суседка зойдзе за дом і яе не будзе відаць з вокнаў маёй кватэры.

Паявілася.

Усміхнуўся, згуляў на апярэджанне, павітаўся першы:

— Добрай раніцы, шаноўненькія! (Не забыўся і на любімца). — Падумаў: «У яе, напэўна, усё наадварот: муж — сава».

Пачуў:

— Ты глядзі, Бублік, не толькі нам у выхадны не спіцца. Цікава...

Пасля «цікава» агульная мова, паразуменне і цікавыя абаім тэмы знайшліся адразу. Дамовіліся, што прадоўжым гутарку пазней.

Вярнуўся ў неасцярожна бадзёрым настроі (расслабіўся), чым моцна здзівіў Яе Вялікасць, якая зрабіла ласку прачнуцца.

— А што гэта ў цябе вочы блішчаць? — замест «Добрага ранку, любы!» падазрона прыжмурылася яна.

— Па табе засумаваў, вось і блішчаць. Прагнуць... — парыраваў як мага дружалюбней, даваў шанц, не чужая ж.

Не скарыстала шанцу (усё ж чужая!):

— Глядзі ў мяне! — паківала пальцам і знікла ў ваннай. Ужо з-за дзвярэй пачуў:

— Не ўздумай у цукарніцы чайную лыжку пакінуць. І хлеб не рэж, як інвалід бязрукі. Крошак на ўвесь стол. Ты ведаеш, я нервовая, за сябе не адказваю. (Так-так, пайшла абуджацца-разыходзіцца, лепш бы далей спала-харашэла.) І наогул, браў бы прыклад з майго брата. Чалавек і маладзейшы за цябе на дзесяць гадоў, і інстытутаў не канчаў, а які разумнік, які ў яго парадак у доме. Схадзіў бы на экскурсію. І працуе не дзе-небудзь, а ў багатым ЗАТ. Грошай — во! — не раўня табе, галадранцу! А што ты? За бясплатна студэнтам мазгі з ранку да вечара сушыш-палошчаш? («А ты не сушыш, ты на іх капаеш», — падумаў, ды сказаць не рашыўся. Звычка...) І гэта ўсё, на што здатны? — ніяк не магла ўгаманіцца жонка. — Не дарэмна брат не толькі бачыць, але й чуць пра цябе не хоча. Так і не захацеў знаёміцца-радніцца...

Уключыла ваду. Бубніць працягвала, але зараз яе слухалі толькі краны. Давай, давай, дзяры горла, размінай звязкі...

Тым часам падзеі набіралі абароты. Да прызначанай сустрэчы заставалася менш за гадзіну, а я не толькі пра кветкі не парупіўся, але і прычыны для знікнення не прыдумаў. Выратавала «Вялікасць» — свой чалавек у чужой камандзе.

— З'ездзіў бы на рынак, — паказалася яна з ваннай з белым, як смерць, ад крэму тварам. — У халадзільніку шаром пакаці, няўжо аслеп?

«Ды быццам не аслеп, — падумаў, прыгадаў: — Каўбаса двух гатункаў пыліцца, сыр, масла, малако, яблыкі, рыба... А-а, учора ікра скончылася... Вядома, акрамя ікры для яе любая іншая ежа — атрута».

Рынак дык рынак. Бачыць Бог, сама напрасілася. Калі б ведзьма ведала, што сёння да рынку прыкладаецца, наўрад ці праявіла б ініцыятыву — раўнівая і хцівая ў дадатак: ні сабе, ні людзям...

Многія мужы і жонкі думаюць, што рана ці позна адкрыюць для сябе (абавязкова!) гэтую страшэнна прыхаваную тайну: здраджвала ім другая палавіна хоць раз у жыцці ці не. Але жыццё праходзіць, а яны так і застаюцца ў няведанні, хоць пра абодвух усё вядома і ягоным сябрам, і ейным сяброўкам.

Загаварыўся, зноў адхіляюся ад курса. Хутка сабрацца і — у дарогу. Адна нага — тут, другая — там.

Апрануўся. Цяпер з не вельмі задаволеным выглядам паведаміць: «Я пайшоў!» Вытрываць ейнае: «Ох, і трапіўся ж мне мумучына (але-але, з двума «му» і «ч»)!» і ў бой! Для некаторых і гэткі сыдзе...

Суседка чакала, як і дамовіліся, ля ўваходу ў кінатэатр «Мір». На пытанне-ўсмешку наконт планаў запэўніў:

— Планаў няма — адны экспромты. Можа, Раўбічы: кажуць, саўна там прыстойная.

— Сто гадоў не была ў такіх установах, — тут жа згадзілася яна, але слова «саўна» далікатна пазбегла.

«Вось што значыць замужняя жанчына! — ацаніў суседку па заслугах. — Для яе час — грошы. І слоў падазроных на вецер не кідае. З такой не прападзеш, не ўліпнеш у гісторыю, не загрыміш пад фанфары...», — зрабіў выснову на карысць больш блізкага знаёмства з суседкай.

— Тады — у дарогу! — кінуў кліч ёй і сабе, спыняючы таксі, якое быццам па заказе выплыла з-за вугла.

Сядаючы, на ўсялякі выпадак азірнуўся: нікога, чыста. Ну й добранька.

— У Раўбічы!



Ілюстрацыя А. КАШКУРЭВІЧА

— Усёк! — кіўнуў таксіст у люстэрка задняга віду. — За асобную плату магу пасля і пачакаць.

— А чаго нас чакаць? — адрэагаваў, ускідваючы бровы. — Мы ж не на пікнік сабраліся. На працу едзем, познімся ўжо.

— Вядома, — з разуменнем усміхнуўся вадзіцель. — Добрая праца. Свежае паветра і ўсё такое...

Я не стаў высвятляць наконт шматзначнага «і ўсё такое». Шакалы гаўкаюць, а караван ідзе. Гэтак моўчкі і даехалі.

Ля ўваходу ў ціхі двухпавярховы будынак не было прыпаркавана ніводнай машыны. «Прыехалі, — уздыхнуў, — выхадны...» Не разгубіўся (а ёсць іншыя прапановы?), падышоў да дзвярэй, пастукаў.

— Хто галоўны? — спытаў у хлопца ў трыко, што ўзнік на парозе.

— Па выхадных — я за яго. Але саўна ў нядзелю не працуе, — высокім сапрана заспяваў нечакана ён. (Блакітны, ці што? І дзе гэта я чуў такі высокачастотны галасок?) — От калі наконт масажу, — заўважыў ён «баксікі» ў маіх руках (заначка ад Яе Вялікасці), рэзка крутнуў галавой — прачнуўся, — дык гэта мы можам. У мяне вышэйшая катэгорыя. Я не які-небудзь там самавук цёмны...

«Кемлівы хлопчык, — прыкінуў. — Гадоў трыста назад добрым бы халопам быў...» З нядбалай усмешкай багатага бізнесменчыка на твары я выступіў на біс:

— Прагнем усяго і па поўнай праграме, акрамя масажу — тут мы і самі з вусамі. Уключай катлы, не губляй часу. З аплатай разбярэмся. І не турбуйся, наўрад ці ў гэтыя выхадныя твае босы аб'явяцца. Напярэдадні жаночы дзень; мяркую, у іх праблем і без цябе вышэй вушэй...

Хлопец, здаецца, палымяна любіў шамаценне заморскіх купюраў, бо, адчуўшы іх у потнай далоньцы, спрачацца не стаў, а, запрасіўшы прысесці, апавясціў:

— Арганізуем усё ўмомант!

Не марудзячы, выйшаў.

Суседка павяла вачыма сюды-туды:

— Неспакойна тут неяк. Здаецца, у такіх месцах асабліва цікаўныя не палянуюцца тэлекамеры паставіць...

Я паблажліва ўсміхнуўся:

— Гэта ты лішку дала, мы ж не першыя асобы краіны. Не з тандэму «аператар-гэбіст і пракурор-красунчык...».

Сам сабе замеціў: «Малайчына, хвалюецца, кантралюе сітуацыю, не спіць, як мая, дзень і ноч. З такой і праўда не прападзеш. Флірт фліртам, а рэнаме вышэй за ўсё. Пашанцавала з суседкай...»



Дзяжурны аказаўся зусім не дурнем, і катлы бурлілі задоўга да нашага прыезду: да прыёму гасцей хлопец быў, аказваецца, гатовы заўсёды...

З разуменнем і ледзь прыкметнай ухмылкай дыпламаваны масажыст правёў нас да запаветных дзвярэй, апынуўшыся за якімі, разумееш, што пакуль ты за імі, ты — у пастцы, і, значыць, заўсёды ёсць шанц, што яны могуць зачыніцца (калі вас, вядома, высачылі). Аднак жа не ныем — не каркаем, спадзяёмся на лепшае. У дадатак, — акрыяў я духам, гледзячы на ззяючую (думаецца, у прадчуванні халявы) фізіяномію масажыста, — наўрад ці мікрасхемкі ў камеры або мікрафоны парыльню вытрымаюць, а між тым акурат там многія якраз і любяць косці старыя размяць, адпачыць-пазабаўляцца. А калі і стварылі такі цуд, дык, мяркую, дух-жар не толькі вочы, але і аб'ектывы слязіцца-пацець вымусіць. Не надта верыцца, каб цікаўныя хлопцы разабраліся ў такім тумане, хто з кім і чым займаецца. А інакш — які сэнс?

Суседка (цяпер ужо і сяброўка) распранулася з ледзяным — дзівосная жанчына! — спакоем. Красуня — зірні і памірай! Грудзі з другога памеру, як выдавалі пад вопраткай, перакачавалі ў трэці. Смочкі ружовыя, як шчочкі немаўляці. Сцёгны — пышныя, крута пераходзяць у шыкоўную попку-мяч. Шанцуе ж некаторым! Штодня з такім мячом гуляюць...

Цела-наркотык прытуманіла свядомасць. Ачуняў, уваходзячы ў салодкае запаветнае месцейка. Яна войкала, абдымала, быццам баялася страціць. І я зноўку адключыўся...

Час ляцеў.

Для кагосьці няўмольна раставалі апошнія ў ягоным жыцці секунды...

Не вельмі дурны, папраўдзе — зусім не дурны шантажыст, выбачайце — масажыст, ці, калі ўжо да канца быць дакладным, масавік-забаўнік прыставіў да другога боку сцяны, што падзяляла раздзявалку «люкс-нумара» і склад бялізны і іншых лазне-пральных аксесуараў, паўтараметровую алюмініевую драбінку. Пахіхікваючы, ён пацёр трэніраванымі пальчыкамі-жыўчыкамі вядомую штуку між ног і пагладзеў, ці загарэўся чырвоны святладыёд, які сведчыць, што тэлекамера ўключана.

Гарыць! Працуе, родненькі! І яшчэ як! «Вока» аб'ектыва спецсаставам змазаў — цяпер не запацее!

Няспешна (вопытны — розныя надараліся выпадкі: раз неяк лішне замітусіўся і загрымеў) самавук-рэжысёр злез з прыступак, падхапіў пад паху алюмініевую сяброўку-памочніцу і падаўся ў «студыю» — некалі пакойчык для прыёму «грэзе-вітамінных» ваннаў.

— Прыз — у студыі! — сказаў сам сабе, пераймаючы аднаго вусатага тэлехлапчыну, аблізваючыся і чакаючы, калі стужка перамотаецца на пачатак. — Ці пакажуць госці сёння што-небудзь вартае? — нецярпліва разарваў поліэтыленавую ўпакоўку відэакасеты. Уставіў карабачку ў акенца відэамагнітафона, што стаяў справа ад манітора на насценнай паліцы над ваннай. Націснуў кнопку «запіс», пасля яе — «паўза». Але апошнюю тут жа і адпусціў: — Глядзі, не распрануўшыся пачалі. Як бы раней часу не спякліся. Бос за такое кіно ні капейкі не заплаціць. Але не, мужычок — нішто сабе, сапе, стараецца... І дзе гэта я бачыў яго? Ці — чуў? О, глядзі ты, і ў мяне пайшло ўгору. Давай, давай, падымайся, слухайся татачкі...

Калі двое на маніторы плюхнуліся ў басейн і прадоўжылі свой інтымны занятак там, рэжысёр не вытрываў:

«Ваду! Для натуральнасці патрэбна вада! Як у іх!»

Уключыў кран. Лёг.

Ванна пачала напаўняцца вадой.

— Ух, — стагнаў рэжысёр, стаўшыся акцёрам. — А-а-а...

Падаўжальнік сеткавага сілкавання, да якога была падключана апаратура, пагойдваючыся, нібы ванька-ўстанька, на краі паліцы, доўга думаў, зваліцца яму ці не зваліцца. Быццам штосьці вырашыўшы за самога Госпада, ён асмеліўся і скокнуў...

Ух ты!

Акцёру-рэжысёру падалося, што гэтак ён яшчэ ніколі не канчаў.

— О-о-о-о!!!

Жалезнымі абцугамі хтосьці ўхапіў яго за сэрца і рваў з грудзей: «Р-раз! А ну яшчэ! Р-р-раз! Давай мацней! Р-р-р-раз! Табе кажу, ад-да-ай!!!»

«Сцэна-арый няпр-равільн-ны! — скеміў праз імгненне кінааматар, якога забівала токам. — З вад-ой — пераб-ор! Пр-агнуў поўн-ай імітац-цыі...»

«І-і-і — бах!!!» — выбухнула свядомасць.

Усё.

Смерць.

Ванна, цела, вада, сперма і згаслы манітор...

— Цік-а, цік-а, цік-а,— забіраў насценны гадзіннік час у тых, што парыліся ў саўне.

Прайшла гадзіна.

Рэжысёр пруцянеў.

Двое з мокрымі галовамі выйшлі ў фае.

— А дзе ж тут валасы сушаць? — спытала яна, але, убачыўшы патрэбны агрэгат імпартнай вытворчасці, усміхнулася: — Добрая саўна, усё па вышэйшым класе.

— Выдатная! — пагадзіўся ён. — Супер!

Выходзілі задаволеныя і шчаслівыя.

— А масажыст, — павярнулася жанчына да мужчыны, — нармальным хлопцам аказаўся, дарэмна ты пра яго нешта бурчэў. Я, дарэчы, яшчэ як заходзілі, падумала: «Сімпатычны малады чалавек, прычэсаны, акуратны, такі не падвядзе». Малайчына, га? Дацяміў: у далікатных выпадках лепш не праводзіць, даць гасцям сысці па-англійску, не бянтэжыць іх...

— Але, такіх зараз рэдка напаткаеш, — пагадзіўся ён. — Дабрадушны хлопец...

Праз дзень я нёс труну з «дабрадушным» — маладзейшым за мяне на дзесяць гадоў жончыным братам. Труна чамусьці здавалася бязважкай, як зрэшты і не зусім сумленна мной здабытая касета з калекцыі масажыста-дыпломніка, што сагравала цяпер сэрца. (Пакуль нябожчыка у адным пакоі адпявалі, у другім я бессаромным чынам пацікавіўся яго "шматтомным" відэазборам.) На плёнцы рэжысёр-аматар увекавечыў сексуальныя подзвігі Яе Вялікасці, якія здзівілі бязмернай актыўнасцю. А здавалася ж, што для яе галоўным у жыцці было ікоркі нажэрціся, фэйс вітамміннымі крэмамі ў тры столкі пратынкаваць і наспацца ўволю, з запасам гадкоў гэтак на дзесяць. Падманліва здавалася...

Больш за ўсё я баяўся, нёсучы труну, каб не зарагатаць...

# БАРДАЎСКІ АКОРД

**У Доме літаратара адбыўся фэст, які сабраў лепшых бардаў Беларусі.**

**Арганізатар — Беларуская музычная альтэрнатыва на чале з Віталем Супрановічам. Праграму вяла Надзея Кудрэйка, якая раней сама займалася арганізацыяй такіх імпрэзаў. Яна расказвае:**

***— Я займалася правядзеннем такіх канцэртаў у пачатку 90-х гадоў. Дапамагала мне Ірына Марачкіна, супрацоўнік Дома літаратара, які ў той час належаў Саюзу пісьменнікаў. Тады было значна лягчэй, арганізоўваць канцэрты дапамагалі мецэнаты і спонсары... Канцэрты былі бясплатныя. А потым мы сутыкнуліся са значнымі праблемамі, у тым ліку і матэрыяльнымі. Але зараз усё ізноў наладжваецца — беларуская культура, а разам з ёй і бардаўская песня пачалі адраджацца.***

**Першым на сцэну выйшаў самы малодшы ўдзельнік канцэрта — Андрэй Латушкін. Паводле адукацыі ён гісторык, спецыялізуецца на архівах Радзівілаў, і ўсе яго песні маюць гістарычную накіраванасць. Вось што ён сказаў пра свой рэпертуар: "Я абраў для сённяшняга канцэрта "зімовыя, снежныя" песні. У час травеньскай спякоты яны будуць як бальзам на сэрца".**

**Затым выступаў Зміцер Бартосік, больш вядомы як журналіст і пісьменнік, аўтар кнігі "Чорны пісталет". Бардаўскі рэпертуар Зміцера Бартосіка мае асаблівасці, звязаныя з яго біяграфіяй. Нарадзіўся Зміцер у Расіі, дзесяцігадовым прыехаў у Гомель. Менавіта тут па радыё ён упершыню пачуў беларускую мову, на якой у далейшым пачаў пісаць і выконваць песні. Вучыўся Зміцер у Вільні, якая стала яго ўлюбёным горадам. Ёй, Вільні, і прысвечаны амаль усе яго песні.**

**Самым запамінальным і незвычайным было выступленне, нават цыркавы нумар, у выкананні Андрэя Мельнікава. Аматары бардаўскай песні ведаюць яго як публіцыста (цяпер ён працуе ў газеце "На стражы"), арганізатара фэсту "Аршанская бітва", а галоўнае, незвычайнага чалавека з багатай фантазіяй. На канцэртную сцэну Андрэй не выйшаў, а выехаў на адмысловай пляцоўцы на колах. У белым халаце, падперазаным поясам з беларускім арнаментам, бард выглядаў даволі экстравагантна. Дзіўны ўбор завяршала аранжавая будаўнічая каска, надзетая ці то дзеля бяспекі, ці то дзеля вобраза. Кожную песню суправаджаў эпіграф — выказванне пэўнага пісьменніка, адпаведнае песні.**

**Выхад Зміцера Сідаровіча быў больш традыцыйны, але не менш цікавы. Зміцер — музыка са стажам: спачатку граў у гурце "Камелот", затым у "Старым Ольсы", а цяпер зацікавіўся бардаўскай песняй. Пераважна ён піша песні ў фальклорным і этнічным стылі, некаторыя з іх прагучалі на фэсце.**

**Завяршыў праграму, бадай, адзін з найбольш знакамітых ці, як яшчэ пра яго кажуць, самы энергічны беларускі бард Віктар Шалкевіч. Ён выканаў толькі новыя песні. Пры канцы выступлення па шматлікіх просьбах залы Віктар прыгадаў некалькі сваіх старых вядомых твораў.**

**Надзея Кудрэйка дадае:**

***— Бардаўская песня — гэта ў першую чаргу паэзія, якую паклалі на музыку. Яна не толькі дзеля дарослых. Многія на бардаўскай песні нават выгадаваліся. Сёння яна ёсць і на эстрадзе, але не ўсе пра гэта ведаюць. Напрыклад, расійскія выканаўцы Барыс Грабеншчыкоў і Андрэй Макарэвіч разам з гуртом "Машына часу" — таксама бардаўская культура, толькі ў акустычнай апрацоўцы.***

**Пачуць "бардаўскі акорд" прыйшлі не толькі дарослыя, але і дзеці. Аншлаг! Можна казаць, што бардаўская песня не толькі не страціла сваіх аматараў, але набыла новых. Арганізатары плануюць правесці яшчэ некалькі фэстаў бардаўскай песні, бліжэйшы з якіх — увосень.**

**Юлія ПАПОВА**

***10 гадоў Наталля Тамела працуе ў Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі. 10 гадоў спаўняецца Нацыянальнаму фестывалю беларускай паэзіі і песні ў Маладзечне. Як заўважае спявачка, фестываль чырвонай ніткаю праходзіць праз увесь яе творчы шлях.***



# ТАКОГА НІДЗЕ БОЛЬШ НЯМА

**— Наталля, як пачыналася ваша кар'ера на эстраднай сцэне?**

— Я вучылася ў Мінскім музычным вучылішчы на харавіка-дырыжора. Безумоўна, марыла пра будучыню эстраднай зоркі. Але не разлічвала, што ўсё атрымаецца так хутка. Калі была студэнткай трэцяга курса, прыйшла на праслухоўванне ў Дзяржаўны канцэртны аркестр. Рэпертуару аніякага ў мяне тады не было. Выканала штосьці з мюзікла Гершвіна і ўласную песню. Сказалі прыйсці ў другі раз. Я прыйшла. Быў дажджлівы дзень, голас вельмі "ўпаў", але мяне ўзялі. Вось і працую ў аркестры ўжо 10 гадоў. Жах, як час хутка ляціць!

Якраз у тым самым 1993-м я ўдзельнічала ў першым фестывалі беларускай паэзіі і песні ў Маладзечне. Гэта было грандыёзнае шоу па значнасці, па станоўчай энергетыцы. Такога я больш нідзе не бачыла, светлыя ўспаміны засталіся ў душы назаўжды. Наогул, усё, што адбываецца ўпершыню, заўсёды надзвычай хвалююча, прыемна і дзівосна.

Ужо ў 1994 г. я прыехала на маладзечанскі фэст у якасці канкурсанткі і заняла першае месца. Што і казаць, фестываль — гэта магчымасць не проста паказаць сябе, сваё творчыя дасягненні, але і ацаніць здольнасці іншых, пазнаёміцца з таленавітымі людзьмі, узбагаціць свой духоўны свет. Безумоўна, цяпер для мяне там ужо ўсе даўно знаёмыя, блізкія і родныя. І гэта таксама цудоўна: сустрэча з сябрамі штогод у святочнай атмасферы. Тым больш, фестываль у Маладзечне адрозніваецца сваёй накіраванасцю, праводзіцца з мэтай падтрымкі менавіта беларускага мастацтва, што надзвычай важна для нашай краіны.

**— Якое ўвогуле ваша стаўленне да аркестра Міхала Якаўлевіча Фінберга?**

— Я думаю, гэта самая моцная канцэртная арганізацыя ў нашай краіне. Арганізацыя, здатная канкурыраваць за мяжой. Моц, высокі ўзровень прафесіяналізму і таленавітасць нашага аркестра ўжо неаднаразова правераны і прызнаны. Ды і салісты ў нас вартыя павагі. Усе маладыя, энергічныя, працавітыя. Маем цудоўны рэпертуар для рознай публікі.

Сёння аркестр вельмі цяжка пакінуць. У мяне і думак такіх ніколі не было. Перш за ўсё, калектыў вельмі таварыскі, усе любыя і родныя. Па-другое, тут велізарная вялікая практыка. Спяваць з аркестрамі "жывуцом" надзвычай складана, і зрабіць гэта належным чынам здольны нават не кожны прафесіянал. Трэба мець добры ўнутраны слых, умець хутка знайсці выйсце ў самых нечаканых абставінах падчас выступлення.

**— Што вы сёлета чакаеце ад фестывалю ў Маладзечне?**

— Я ўпэўнена, усё будзе цудоўна. Нават лепш, чым у мінулыя гады. Як-ніяк, сёлета фестываль юбілейны. Мы выканаем усе самыя лепшыя песні, якія прайшлі за 10 гадоў. Безумоўна, будуць і новыя творы. Увогуле, чакаецца цікавы, незабыўны канцэрт па дынаміцы, рэпертуары і настрoі. Дарэчы, будзе вельмі шмат фінальных песень з удзелам усіх салістаў нашага аркестра.

Ідзе вельмі сур'ёзная падрыхтоўка. Рэпетыцыі частыя і доўгія. Кожны адчувае адказнасць, а таму працуе старанна. Між іншым, неабходна не толькі падрыхтоўка вакальна-інструментальная, але і праца са сцэнай, святлом, гукам і г.д. Ды і на працягу канцэрта адчуваецца напружанне кожную хвіліну — усё трансліюецца ў "жывы" эфір.

Сёлета я выканаю такія песні, як "Берагі кахання" Будніка, "Я і ты" Елісеенкава, заголовачную песню фестывалю "Чэрвеньскія кветкі" і песню, якую ўпершыню выконвала ў 93-м, — "Грэх" Захлеўнага на тэкст Пранчака. Гэта творы з цудоўнай паэзіяй, прыгожымі мелодыямі, выдатнымі аранжыроўкамі і добрым выкананнем. Увогуле, казаць пра фестываль вельмі цяжка, немагчыма на словах перадаць усе пачуцці і эмоцыі, трэба самому акунуцца ў тую чароўную атмасферу.

**Наста ЛІТВІН**

***Фота А. МАЦЮША***

***Уладзімір Аўчароў нарадзіўся ў Расіі, першыя творчыя крокі рабіў на Украіне, а сёлета ён — адна з новых зорак беларускай эстрады. Мабыць, гэта імя яшчэ не ўсім вядомае: як-ніяк, спявак толькі год працуе на Беларусі.***

# КІРУЕ ТВОРЧАСЦЮ КАХАННЕ



**— Уладзімір, раскажыце, калі ласка, пра свой шлях да Беларусі.**

— Увогуле, нарадзіўся я ў тайзе, каля возера Байкал. Цудоўныя мясціны, вакол чыстая некранутая прырода. Мабыць, гэта моцна паўплывала на маё духоўнае станаўленне. Калі быў шасцігадовым хлопчыкам, сям'я пераехала ў Кіеў. Там прайшло маё юнацтва. Матуля, даволі вядомы доктар, хацела, каб сын звязаў жыццё з медыцынай. Я нават скончыў двухгадовыя курсы анатоміі і фізіялогіі. Аднак душа імкнулася да творчасці. Так, па ўласным жаданні, паступіў у Кіеўскі дзяржаўны каледж эстрадна-цыркавога мастацтва па класе вакалу. Шчыра кажучы, родныя спачатку былі вельмі незадаволеныя, але хутка прызвычаіліся. Я ведаю, што зрабіў слушны крок. Крок, які вырашыў далейшы лёс.

У каледжы вельмі пашанцавала з настаўнікамі. Гэта такія вядомыя ў сусветных цыркавых колах асобы, як М. Баранаў, Ан. Алексаньян, І. Чарніцкі і інш. Адслужыў у арміі, закончыў вучобу, працаваў у разнастайных музычных калектывах. Летась накіраваўся ў Данецк, дзе ўдзельнічаў у фестывалі "Залаты скіф". Міхаіл Якаўлевіч Фінберг заўважыў мяне, прапанаваў працаваць у Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі. Вось так я тут і апынуўся ў верасні 2002 г.

**— Плануеце застацца ў Мінску ці працягнеце творчыя вандроўкі?**

— Прыехаў сюды назаўжды. Працаваць з такім аркестрам выпадае не кожнаму. Між іншым, Мінск — горад дзівосны, надзвычай прыгожы. Ды людская атмасфера тут адметна добразычлівая. Склалася так, што Кіеў, Масква і Мінск для мяне непадзельныя. Нарадзіўся ў Расіі, жыў на Украіне, працую ў Беларусі. Усё гэта мая Радзіма.

Я вельмі ўдзячны, што Міхаіл Якаўлевіч запрасіў мяне сюды. Увогуле, паважаю гэтага чалавека. Ён вельмі спагадлівы і сумленны, і надзвычай патрабавальны. Прыйсці на рэпетыцыю непадрыхтаваным проста немагчыма. Калі працаваць, дык якасна! Укладаю ўсяго сябе ў гэту справу і, дарэчы, атрымліваю найвялікшую асалоду. А калі ёсць жаданне працаваць, усё здаецца лёгкім і магчымым.

Але варта памятаць, незалежна ад таго, спявак ты ці доктар, галоўнае — тварыць на карысць людзям. Трэба мець нейкі жыццёвы досвед, пачуцці, душу, каб выходзіць на сцэну і дзяліцца сваімі набыткамі з навакольнымі. Згадзіцеся, сёння вельмі шмат калектываў пустых. Шчыра кажучы, не хацелася б распачынаць размову на гэту тэму. Усе мы бачым, што ў нашай беларускай эстрадзе не адбываецца нічога добрага. Так, ёсць бясспрэчныя зоркі, такія, як "Сябры" і "Песняры", але гэта водгукі мінулага. Безумоўна, мы маем цудоўныя беларускія песні, музыку, ёсць таленавітая моладзь, але большасць папулярных у нас зорак "раскручваецца" ў Расіі.

**— Ці ёсць у вас якія-небудзь інтарэсы, акрамя музыкі?**

— Я чалавек творчы, як кажуць, апошні рамантык. Пішу апавяданні, якія ацэньваюцца маімі маскоўскімі сябрамі, прафесіяналамі ў гэтай справе. Складаю вершы. Аднак пакуль не публікую творы — няма неабходнасці. Адным словам, творчасць праяўляецца ва ўсім. Гэта маё жыццё. Галоўнае кахаць, тады лёгка нараджаюцца песні, пішуцца вершы, мінаюць хвіліны невыноснага болю і адчаю. Каханне — вось рухаючая сіла творчага жыцця.

**— Якія ў вас творчыя планы на будучае?**

— Калі казаць пра бліжэйшую будучыню — гэта ўдзел у Нацыянальным фестывалі беларускай паэзіі і песні ў Маладзечне. Перад фестывалем, як вядома, прайшоў конкурс маладых беларускіх выканаўцаў эстраднай песні. Я заняў першае месца. Менавіта ў Маладзечне адбудзецца ўручэнне прызоў лепшым канкурсантам. Увогуле, планецца вялікая праграма з удзелам шматлікіх зорак беларускай эстрады. Буду я там упершыню. Пакуль не раскрыю таямніцу, якія песні прагучаць у маім выкананні. Аднак гарантую, усё будзе прыгожа і шчыра.

Калі ж казаць пра далейшыя намеры, то іх вельмі шмат. Галоўнае, імкнуцца да лепшага і верыць у свае сілы. Вельмі хацелася б прадстаўляць у якасці канкурсанта Беларусь на сёлетнім "Славянскім базары" ў Віцебску.

Безумоўна, я буду працягваць працу ў аркестры. Гэта калектыў надзвычай высокага ўзроўню. А для мяне тут — цудоўная практыка і творчы рост.

**Гутарыла Наста ЛІТВІН**

# ЗНАЁМЫЯ АБЛІЧЧЫ



Паэт Н. ГАЛЬПЯРОВІЧ, народны артыст Беларусі А. ЯРМОЛЕНКА, міністр культуры Л. ГУЛЯКА, дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" У. МАЧУЛЬСКІ, паэт А. ПІСЬМЯНКОЎ.



Інтэрв'ю І. АБАЛЯН (злева).



І. АФАНАСЬЕВА



Дэбют В. АЛЕШКІ



Я. ПАПЛАЎСКАЯ ды А. ЦІХАНОВІЧ

***Інтэрв'ю з Нінай АЎРАМЕНКАЙ, кіраўніком знанага ансамбля флейтыстаў, які выступае заўтра ў вялікай канцэртнай праграме "Прысвячэнне М. Кл. Агінскаму".***

— Ёсць аранжыроўкі беларускіх твораў: Глебава, Агінскага, Радзівіла, Казлоўскага. Ёсць творы беларускіх кампазітараў, напісаныя спецыяльна для нас Генадзем Ермачэнкавым, Аляксандрам Літвіноўскім, Уладзімірам Каральчуком.

**— "Сірынкс" даволі актыўна ўдзельнічае ў конкурсах, фестывалях: ці не так?**

— Так, напрыклад, наш калектыў удзельнічаў у спаборніцтве камерных ансамбляў у горадзе Хмяльніцкім (Украіна). Там было дваццаць два ўдзельнікі, вельмі сур'ёзная канкурэнцыя, але мы занялі другое месца. А фестывалі? Напрыклад, у



**— Нагадайце, калі ласка, пра тое, як склаўся ансамбль.**

— Калі я прыйшла працаваць у вядомую школу імя Ахрэмчыка па музыцы і выяўленчым мастацтве, у мяне ўзнікла праблема: як зацікавіць навучэнцаў духавога аддзялення тым, чым ніхто не жадаў займацца . І вось тады я пачала арганізоўваць вучняў у дуэты, потым у трыю. Ім было значна цікавей іграць разам, у калектыве. І такім чынам узнік наш цяперашні ансамбль, але гэта было вельмі даўно, у самым пачатку маёй педагагічнай дзейнасці. "Сірынкс" павялічваўся колькасна. Падрасталі вучні, прыходзілі новыя...

**— Ці не думалі дапоўніць ансамбль якімі-небудзь яшчэ інструментамі?**

— Па-першае, мы іграем разам з фартэпіяна. А па-другое, у нас ёсць творы, у якіх выкарыстана ўся флейтовая сям'я: пікала, вялікая флейта, альтовая і басовая флейты. Аднойчы ў нас быў эксперымент: ужылі ўдарныя інструменты для выканання фантазіі на тэмы з оперы Гершвіна "Поргі і Бес". Яшчэ далучалі фагот, калі гралі музыку Тэлемана, Трыо-санаты Баха. Атрымалася вельмі цікава.

**— "Сірынкс" і старадаўняя заходнееўрапейская музыка — гэта зразумела. Але ж і беларускія творы ёсць у рэпертуары ансамбля?**

Францыі наведвалі двойчы. У Крыме атрымалі званне "Упрыгожванне фестывалю — за бліскучае майстэрства і вытанчанасць густу". Мы заўсёдныя ўдзельнікі айчынных фестываляў у Нясвіжы, у Полацку, у Заслаўі, Мсціславе. І сёлета дадаецца фестываль у Маладзечне. Усе гэтыя нашы фестывалі — плён дзейнасці Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, у структуры якога працуе і "Сірынкс". Я лічу, што Міхал Якаўлевіч Фінберг — сапраўдны арганізатар, натхняльнік усіх гэтых фэстаў.

**— Ці не збіраецеся вы запрашаць новых удзельнікаў у свой ансамбль, склад якога апошнім часам стабілізаваўся?**

— Рэч у тым, што сёння ў нас існуе два, а то і тры склады музыкантаў — нібыта школа-студыя для асноўнага ансамбля "Сірынкс". Студэнтаў 1—2 курсаў Беларускай акадэміі музыкі я таксама аб'яднала — у квінтэт, куды часам далучаюцца вучні Рэспубліканскага каледжа пры БАМ. У каледжы ж ёсць трыю, якое нават стала лаўрэатам Міжнароднага конкурсу інструментальных ансамбляў імя Агінскага у Смаргоні — летась, атрымаўшы другую прэмію (першую, дарэчы, нікому не далі). Такім чынам, ёсць "запасныя" для асноўнага складу.

**Гутарыла Н. МІЛЬТО**

***Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА***

# ПРЭЗЕНТУЕ ВАЙЦЮШКЕВІЧ

6 чэрвеня ў Рэспубліканскім ПК ветэранаў адбылася прэм'ера новай праграмы Зміцера Вайцюшкевіча. Прагучалі песні з папулярных супольных музычных праектаў "Народны альбом", "Сьвяты вечар", "Я нарадзіўся тут". Часцей Вайцюшкевіч сам займаецца арганізацыяй сваіх канцэртаў, але на гэты раз арганізатарам выступіла БМА group. Як адзначыў спявак, дзякуючы гэтаму ў яго з'явілася больш часу, каб займацца творчасцю.

Разам са Зміцерам на сцэну выйшлі ўдзельнікі "W.Z. — Orchestra" (Аркестр "Усход-Захад"). Акардэон, гітара, скрыпка, ударныя і раяль — вось спадарожнікі Зміцера на ўсіх яго канцэртах. Ён расказвае:

**— Музыкі з "W.Z." працуюць са мной стала, але часам запрашаем новых. Напрыклад, калі запісвалі песні на вершы Алеся Камоцкага, дапамагалі музыкі з акрестра Міхала Фінберга. Зараз рыхтуюцца да запісу песні на вершы Уладзіміра Маякоўскага, адну з якіх выканае гурт "Drum Extasy".**

Канцэрт пачаўся песнямі Алеся Камоцкага — шчырымі, лірычнымі, але ў той жа час не без гумару. Былі кампазіцыі і пра каханне: "Я ішоў да цябе" і "Раскажы мне пра дождж". Тэкстам песень прыкладна 10 гадоў, але яны не проста ляжалі, а чакалі свайго часу.

Прагучала і некалькі песень на вершы Леаніда Дранько-Майсюка. Песні пра Беларусь, пра яе народ, традыцыі, прыроду не маглі не ўразіць гледачоў.

Завяршылі праграму песні на вершы Уладзіміра Караткевіча.

**— Усе песні для мяне — як дзеці, у іх я ўклаў часцінку сябе, — прызнаецца З. Вайцюшкевіч. — Кожны паэт дае свой асабісты настрой. Мне падабаюцца лірыка і гумар Караткевіча, вобразнасць і глыбокі сэнс песень Камоцкага, сатыра Дранько-Майсюка.**

Кожны, хто калі-небудзь быў на канцэртах Зміцера Вайцюшкевіча, ведае, што ў яго асаблівая сувязь з залай. Магчыма, у гэтым і сакрэт поспеху. А сам музыка кажа, што энергія для яго больш важная, чым нават якасць гуку. Яго песні прасякнуты любоўю да беларускага народа і беларускай культуры. У іх гарманічна спалучаюцца і лірычныя ноткі, і глыбокія думкі, і гумарыстычныя моманты, і фальклорны каларыт. Ніводную кампазіцыю нельга назваць сумнай ці вясёлай. У кожнай — гама эмоцый і пачуццяў.

**— Зараз мы працуем над новым праектам "Цацачная крама-2", — кажа З. Вайцюшкевіч. — Запісваюцца песні на вершы Алеся Камоцкага і Уладзіміра Маякоўскага, нам дапамагае Сяргей Раінчык. Некаторыя песні на вершы Маякоўскага ўпершыню прагучалі ў кастрычніку (на гадавіну смерці паэта) у маскоўскім Музеі Маякоўскага, а ў ліпені нас запрасілі правесці некалькі канцэртаў у маскоўскіх клубах. На фестывалі ў Маладзечне з аркестрам пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга выканаю песню "Бабка". Спадзяюся, што маладзечанская публіка сустрэне мяне гэтак жа шчыра, як мінская.**

Увосень Зміцер Вайцюшкевіч возьме ўдзел у "Фестывалі чатырох культур" у Польшчы.

**Юлія ПАПОВА**

# ЗНАЁМЫЯ АБЛІЧЧЫ


М. ФІНБЕРГ, Г. ГРАМОВІЧ.


А. ЯРМОЛЕНКА.


З незабыўным У. МУЛЯВІНЫМ.


У Маладзечне — ЛІКА.


Лаўрэат Гран-пры фестывалю "Маладзечна—98" В. АЛЕШКА і кампазітар В. ІВАНОЎ.


Паэт Л. ДРАНЬКО-МАЙСЮК і кампазітар Л. ЗАХЛЕЎНЫ.

***Новыя песні пра галоўнае падарыў "гораду і свету" наш першы нацыянальны эстрадны фэст. Сапраўдныя знаходкі ў гэтым жанры — "Маладэчна" ды "Талака", творы кампазітара Ігара Паліводы і паэта Лявона Пранчака, напісаныя ў 1993 г. адмыслова да свята і ўспрынятыя адразу ж як яго візітоўка.***

***У фестывальнай партытуры было нямала іншых своеадметных фарбаў, народжаных фантазіяй І. Паліводы. Так, яго таленавітая і мудрая фантазія прывяла да ні з чым не параўнальных песенных залацінак, якія ў марафоне гадоў і ў кругабегу модных тэндэнцый на эстрадзе не страцілі сваёй глыбіннай каштоўнасці, эстэтычнай ды інтэлектуальнай прывабнасці. З часам, я сказала б, толькі пачынае раскрывацца непаўторная прыгажосць мелодый І. Паліводы, густоўнасць і вытанчанасць гарманізацыі ды іх інструментальнай расфарбоўкі. Колькі мініяцюрных шэдэўраў у яго эстрадна-вакальных цыклах, створаных падчас працы ў "Песнярах", у Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі! Згадайма "Вясёлых жабракоў" паводле Р. Бёрнса, "Беларушчыну" на Купалавы тэксты, "Матчын спеў" на вершы А. Куляшова, поп-оперу "Максім", створаную паводле паэзіі М. Багдановіча на лібрэта Л. Пранчака...***

***Чулы да мастацкага слова, І. Палівода і сам "вершамі грашыў". Праўда, пры яго жыцці (дарэчы, пражыў музыкант няпоўныя 46 гадоў, сёлета ў маі яму было б толькі 53) пра тое мала хто ведаў. А яшчэ ён вёў дзённік, фрагменты з якога прапануем увазе чытачоў "ЛіМа". Рэдакцыя выказвае глыбокую ўдзячнасць удаве кампазітара Вользе Паліводзе за магчымасць апублікаваць гэтыя запісы — шчырыя, дасціпныя, поўныя тонкай самаіроніі — менавіта ў "ЛіМе". (Друкуецца ў перакладзе.)***

С. БЕРАСЦЕНЬ

# «БОЛЬШ ЗА ЎСЁ ЦЯГНЕ ДА ПЕСЕНЬ...»

## Дзённікавыя запісы Ігара ПАЛІВОДЫ

*Нядз. 16.3.1980 г. Масква.*

У маім дарожным чамадане сярод папер, польскіх дэтэктываў, трусоў ды кашуль ёсць кніга ў белым пераплёце з надпісам на вокладцы "КЭД" (у арыгінале "КЭС". — **С. Б.**). Тытульны аркуш расшыфроўвае гэтую абрэвіятуру: "Кароткі энцыклапедычны даведнік пра планету Галапузак і яе жыхароў. Для прафанаў".

Уся кніга ў 224 старонкі, забяспечаная каляровымі ілюстрацыямі, картамі, планамі, дзіўнымі партрэтамі і да т.п., зроблена саматужным спосабам са стосу пісьмовай паперы і набору "Юны пераплётчык". На маёй хатняй паліцы ёсць яшчэ колькі такіх кніжак.

Пачалося ўсё гадоў гэтак 20 таму. Вучыўся я, як вядома, у школе для асабліва даравітых дзяцей (цяперашні Рэспубліканскі каледж пры Беларускай акадэміі музыкі. — **С. Б.**), і маімі аднакласнікамі былі гэткія ж асабліва даравітыя дзеці, якім быў я сам. Адораны я быў багата і ўсебакова. Кажуць, што ўжо ў тры гады я няблага складваў кубікі ды граў на фартэпіяна. Яшчэ любіў маляваць і маляваў усё — ад мураўёў з дзідамі да голых жанчын.

Калі я быў у 4-м ці ў 5-м класе, мне ў рукі трапіў альбом малюнкаў Х. Бідструпа, які зрабіўся маёй настольнай кнігай. Асабліва мне падабаўся там адзін малюнак — буйным планам морда, скрыўленая ад смеху. Неўзабаве я сам пачаў маляваць штосьці падобнае. За адной партай са мной у тыя часы сядзеў не менш адораны хлопчык Саша Уладамірскі (прадаўжальнік знанай акцёрскай дынастыі. — **С. Б.**). Ён таксама ад нуды пачаў маляваць падобныя морды. Тэмы нашых малюнкаў, якім мы прысвячалі цалкам школьныя ўрокі, былі, у асноўным, пра вайну, дзе патрабаваліся тыя, хто варагуе. Таму з'явіліся морды дзвюх-трох мадыфікацый, што мусіла азначаць розныя расавыя прыкметы. Так спакваля з'явілася некалькі народнасцяў (плямёнаў) галапузакаў. Касцюм іх быў нязменны. Усе яны былі апранутыя ў шорты, майкі, якія не закрывалі пуп, не мелі на галаве валасоў і хадзілі абавязкова босымі. Так узнікла "планета Галапузак".

З ашмёткаў паперы, лістоў са школьных сшыткаў малюнкі перабраліся ў спецыяльна распачатыя тонкія, а потым і тоўстыя (агульныя) сшыткі, на старонках якіх разыгрываліся захапляючыя падзеі ў выглядзе цэлых раманаў у малюнках.

Потым я далучыў да таямніцы "галапузакаў" свайго дружбака па пад'ездзе Валодзьку Кін-Камінскага (таксама прадстаўнік акцёрскай дынастыі. — **С. Б.**) і, канечне, паказаў яму сшыткі з малюнкамі, якіх да таго часу было ўжо тры ці чатыры. Валодзька адразу зрабіўся ахвярай "галапузакаў", узяўшы ўдзел ва ўсіх падзеях іх жыцця, па меры сваіх мажлівасцяў малюючы ў сшытках, прыдумляючы разам са мной усё новыя прыгоды і дзейных асоб. Асабліва ўражліва ў яго атрымліваліся малюнкі батальных сцэн.

Тады ж намі (супольна з Кін-Камінскім) быў напісаны дужа ёмісты раман пра масцітага амерыканскага шпіёна Віллема Хургерса, у якім падчас адказнага спецзадання ЦРУ нечакана загаварыла сумленне, у выніку чаго ён апынуўся між двух агнёў і пачаў гойсаць па розных краінах, хаваючыся як ад доўгіх рук імперыялістычных разведак, якія спрабавалі, што б там ні сталася, ліквідаваць гада, так і ад службаў контрразведкі краін, супраць якіх была скіравана яго колішняя дзейнасць. Гэты захапляючы раман, помніцца, займаў тры таўшчэзныя сшыткі, хаця так і не быў дапісаны да канца (баюся, што калі б мы нават працягвалі працу дагэтуль, раман усё адно застаўся б незакончаным).

"Галапузнае" мастацтва развівалася не толькі ў літаратурнай і выяўленчай галінах. Някепска развітая была і музыка. Як толькі ў мяне з'явіўся магнітафон ("Днепр—ІІ"), мы з Кін-Камінскім шмат імправізавалі перад мікрафонам, сходу складаючы музыку і словы. Імправізацыі гэтыя запісваліся на малую хуткасць, а пракручваліся на вялікай. Атрымлівалася вельмі забаўна. Там былі песні, маналогі, куплеты, варыяцыі на розныя музычныя тэмы "галапузнага" паходжання, сцэнкі і нават цэлыя радыёспектаклі.

Што да літаратурнай дзейнасці, дык яна развівалася больш інтэнсіўна за ўсе іншыя. Вершы, апавяданні, паэмы, раманы пацяклі шырокай ракой.

*Чацв. 5.2.1981 г.*

Ідэю пакласці на музыку вершы Роберта Бёрнса не назавеш новай: вершы яго быццам створаныя для песенек. Але Галава (Мулявін. — **С. Б.**) без аніякіх падкінуў гэтую ідэю мне — адносна "Песняроў". Спачатку ўсміхаўся, думаў — жартуе. Але Галаве сёння не да жартаў, і я задумаўся. Задумаўся — паспрабаваў, патурбаваў "бренный прах" Роберта.

Не ведаю, ці такую музыку меў на ўвазе нябожчык, але сёння наяве палатно з тузіна песень, абавязанае прабіць сабе дарогу ў новыя праграмы "Песняроў".

*Пн. 25.4.1983 г. Гродна.*

Прага да ўсялякага папераkрэмзання, перададзеная ў спадчыну, відаць, ад памерлай бабулі Кацярыны Мікалаеўны ды сёння жывога-здаровага дзеда Пятра Іёўлевіча, якому штосьці каля ста, з'явілася ўва мне з маленства. Здавалася б, такога кшталту патрэбы няцяжка задаволіць: бяры ды перапісвай (перадрукоўвай) Л. Талстога, М. Чарнышэўскага ці проста Вялікую Савецкую! Дык жа не. Усё трэба выдумляць з галавы.



У школьныя гады жарсць маю з лішкам задавальнялі "галапузакі". Цяпер ім патрабуецца замена.

Пасля некалькіх удалых мелодый у песнях паводле Бёрнса адчуваю ў сабе патрэбу музычнага "сочинительства". Такую патрэбу, праўда, адчуваў і раней, яшчэ са школы. Пра гэта сведчаць дзве таўшчэзных папкі са спісанымі нотнымі аркушамі ды шмат гэткага іншага. Больш за ўсё цягне да песень.

І вось задумаў я нядобрае: зноўку "пагрузиться в вузовские нечистоты". Хай мяне, як гаворыцца, навучаць. Дзіка, вядома, але паспрабаваць трэба — паглядзець, які з мяне будзе кампазітар.

Час чамусьці йдзе з нязменным паскарэннем. Але хаця пішу не мала, нічога па-сапраўднаму вартага ўвагі яшчэ не стварыў. Адчуваю: мог бы лепей.

*Ср. 27.4.1983 г. Мінск.*

Трэба набіваць руку. Цяжка пачынаць у трыццаць тры гадочкі. Але хтосьці ў гэтым узросце памёр і ўваскрос. Мне ж, не прэтэндуючы на неразумныя аналогіі, трэба яшчэ высветліць, на якім я свеце ў свае трыццаць тры.

*Аўт. 24.5.1983 г. Мінск.*

Пры канцы рэпетыцыі, каб адпачыць ад музыкі, І. Лучанку было прапанавана паслухаць маю новую песеньку на верш У. Някляева "Мілую цябе". З назвы відаць, што верш палітычна нейтральны, што я і паспрабаваў падкрэсліць у мелодыі. Водгук беларускага Моцарта не нёс адмоўнага характару, і гэта дае надзею, што песенька зойме сваё сціплае месца ў будучай праграме.

*Сб. 26.6.1983 г. Мінск.*

30-га "Песняры" пакідаюць родны Мінск у пошуках новых сустрэч з працоўнымі дзяржавы. Гэтым разам, здаецца, паедуць без мяне.

Я застаюся з нагоды сваёй уласнай надакучлівай ідэі — ідэі паступлення ў музычную акадэмію. Пытанне гэта будзе вырашацца ў бліжэйшыя дні. У панядзелак апоўдні рэктар загадаў з'явіцца да яго з творамі. Мой апякун жадае пагледзець, ці не шкодны я для мастацтва, паказаць мяне заг. кафедры кампазіцыі і толькі пасля гэтага заняцца вырашэннем адміністрацыйных пытанняў.

Для самапаказу я падрыхтаваў маленькія фартэпіянныя п'есы: адну выбраў з тых, што напісаў у светлыя гады вучэння, другую, зусім мініяцюрную, — прыдумаў зусім нядаўна. Баюся: ці не ўспрымуць бацькі беларускай музыкі як выклік тое, што кожная з гэтых п'ес мае танальнасць або ключавыя знакі. У музыцы эстраднай такое пакуль, на шчасце, нікога не шакіруе, але ў галіне Высокага Мастацтва я, прызнацца, за дзесятак гадоў трошку паадстаў і, можа стацца, ключавыя знакі там лічацца цяпер прыкметай кепскага тону... Але не дачакацца ад мяне буржуазных "завихрений"! Мне яшчэ хапае до мажора, хаця, калі буду вучыцца, згодны ўставіць туды які-небудзь фа-дыез.

Падрыхтаваўся да паступлення, шчыра скажам, ніяк. Не магу паказаць нічога, што лічыў бы вартым. Ужо не кажучы пра пабочныя дысцыпліны, якія давядзецца здаваць у межах прыёмнага конкурсу.

Але буду спрабаваць. Можа быць, не позна яшчэ ўзяць самога сябе за горла, пакорпацца ў сваіх вантробах, пашукаць там штосьці вартае і выцягнуць гэта на свет божы, зрабіць хаця б што-небудзь, за што не было б потым сорамна.

*Чацв. 14.7.1983 г.*

Мінула больш як тыдзень з дня першага экзамена, а мяне ўсё яшчэ не пакідае адчуванне ўцягнутасці ў нейкую аферу: займаюся нейкімі дзіўнымі справамі — пашарпаныя ноты, падручнікі... Сяды-тады падкатваю да шэрага з каланамі будынка на белай машыне, і мяне пускаюць унутр; пачціва вітаюся з людзьмі, імёны якіх занесеныя ў Энцыклапедыю, цягну білеты з падрапаных сталоў...

Людзі з энцыклапедыі ставяцца да мяне з уражлівай цярпімасцю, стараючыся не надта афішаваць маё гучнагалосае невуцтва ў элементарных пытаннях музычнай тэорыі ды гісторыі. Штуршком да такой далікатнасці стаўся калёквіум, дзе ім давялося даведацца ад мяне, што М. І. Глінка, як сучаснік Джакама Пучыні, зведаў у сваёй опернай творчасці ягоны ўплыў. Гэта вымусіла іх на чарговых экзаменах да яшчэ большай асцярожнасці і пільнага ўзважвання кожнага новага пытання.

На сённяшні дзень мною здадзены чатыры з пяці спецыяльных экзаменаў, рыхтуючыся да якіх, я знайшоў у разумных кнігах, што М. І. Глінка не мог зведаць уплыў "Багемы" і яе аўтара, бо памёр за год да з'яўлення апошняга на свет. Гэта навяло мяне на думку, што ў жыцці трэба не толькі пісаць, але часам і чытаць.

Наперадзе аднак жа яшчэ сачыненне, руская мова з літаратурай і гісторыя СССР. Як бы там не ляпнуць, што Грыбаедаў, скажам, сучаснік Фурманава, а Дзмітрый Данской — адзін з заснавальнікаў РСДРП.

Зрэшты, у гады вучобы бывалі мы і не ў такіх пераплётах.

*Сб. 29.10.1983 г. Мінск.*

Старанна запаўняю вялізныя белыя плямы на старонках асабістага музычнады агульнаадукацыйнага атласа. Тут, у неабсяжных водах, існуюць незлічоныя выспы і нават цэлыя мацерыкі, пра якія я і не падазраю. Іх абрысы ў маім уяўленні пакуль расплывістыя, і зрабіць іх больш рэльефнымі дапамогуць толькі нястомныя вандроўкі цікаўнага і рашучага даследчыка.

На дадзеным жа этапе робяцца толькі асцярожныя нешматлікія вылазкі з агульным назіраннем шырачэзных паверхняў з касмічных вышыняў. Робіцца гэта ў цёмны час сутак з дапамогай прыбораў начнога бачання — з чыста разведвальнымі, азнаямленчымі мэтамі. У далейшым мяркуецца наладзіць дасканалую агентурную сетку для збірання больш вычарпальнай інфармацыі.

Пры святле ж божым працягваюцца звыклыя прагулкі па пратаптаных сцежках: у "Песнярах" пачынаецца падрыхтоўка да чарговай серыі выступленняў, прысвечанай 40-годдзю вызвалення Беларусі.

(Працяг будзе)

# «ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ»

Кнігі валодаюць сваёй непаўторнай аурай, якая прыцягвае да сябе чытача. Нездарма ў кнігалюбаў існуе такое выслоўе — "не мог адарвацца ад гэтага выдання некалькі гадзін запар". Вось нешта падобнае здарылася са мной, калі я ўзяў у рукі фотаальбом, выдадзены Міжнародным цэнтрам культуры кнігі "Памяць зямлі Беларусі". Ён заварожвае сабой яшчэ пачынаючы з пераплёту, літаральна — з першых старонак.

Састаўлены кіраўніком гэтага выдавецкага цэнтра — паэтам і мастаком Валерыем Мішчанкам — альбом, з якімсьці трапяткім чараўніцтвам, знаёміць нас з асноўнымі памятнымі мясцінамі Рэспублікі Беларусь. Серабрыста-шэрая гама кнігі, быццам узятая з нябеснай палітры Беларусі, робіць фон для ўспрымання выдатных фотапрац Алега Бабінца, Ігара Бышнева, Віктара Ганчарэнкі, Алены Клюйко, Аляксандра Беразняка, Аляксандра Гутоўскага, Аляксандра Лабады, Юрыя Яўменава, Георгія Ліхтаровіча і іншых беларускіх фотамастакоў. Сапраўднай жамчужынай альбома стаў здымак Эрнеста Цецярэўскага з Полацка, змешчаны на пераплёце: на навальнічным небе, быццам трапечацца на ветры полымя свечкі, храм Сафіі Полацкай, а на пярэднім плане вада і зямля — залацістыя, застылыя ў вечнасці пласты зямлі Беларусі. Зямлі, якая, па словах Уладзіміра Караткевіча, чыё ўступнае слова змешчана ў альбоме, нічога не забывае. Велічная і гордая — яна зберагае ўсё, што тысячагоддзямі стваралі людзі. Ад пасівелых ад часу развалін да сучасных абеліскаў, цудоўных будынкаў, палёў, лясоў і рэк. Працай людской, яна можа пець на адным дыханні (так, што, здаецца, пяюць самі нівы і лясы) песні, складаць вершы, у якіх пяшчота пацалунка і суровасць удару мяча.




Праз увесь альбом праходзяць цудоўныя беларускія пейзажы, на фоне якіх — храмы, абеліскі, помнікі, гарады і сёлы, рабочыя і сяляне, паэты і касманаўты. А побач з імі вершы вядомых сыноў і дачок зямлі беларускай. Вершы, быццам бы нараджаліся з шапацення лістоты, белізны аблокаў, блікаў на залатых купалах храмаў.

На кожным развароце кнігі гучаць яны па-рознаму: то яны пацалунак немаўляці або пяшчотны дотык веснавых лістоў бярозы, то, сапраўды — як удар мяча або вызубленай магутнай сякеры.

Усё разам — вершы, фота і подпісы да іх на чатырох мовах: беларускай, рускай, англійскай і нямецкай — звярстаныя камп'ютэрным дызайнерам Уладзімірам Ногам па добра зробленым макеце Валерыя Мішчанкі, з яго ж вытанчаным, цудоўна спалучаным з фарматам і іншым мастацкім афармленнем, ад пераплёту і тытульнага ліста да размяшчэння подпісаў, вершаваных радкоў і выхадных звестак — стварае цудоўны кніжны ансамбль.

Альбом "Памяць зямлі Беларусі" — выдатны падарунак не толькі гасцям Рэспублікі Беларусь, але і ўсім жыхарам краіны. Невыпадкова на пераплёце аўтар выдзеліў адно слова, яно пададзена буйней, чым астатнія словы назвы, таму і чытаецца першым, здалёк — "Беларусі".

**В. К.**





**Вячаслаў АДАМЧЫК**

# ДЗЁННІК

**(Працяг. Пачатак у 24 нумары)**

**Пятніца, 5 мая 1978 года**

Зноў пагодная раніца. Перасвіст пташак. У нерухомай вадзе канавы зноў дзікія качкі – прыгожы, з чорна-зялёнай шыяй, качар і карычнявата-рабенькая качка. Ён уцёк з трысніку, а яна сядзіць на беразе – пры вадзе, недалёка ад дзікае грушы, <што выпускае дробн>

На возеры, у трысніку, чорныя з белым воллем чомгі. Большыя за крыжанак.

12. Ізноў сяджу на беразе возера, кінуўшы качару хлеба. Ён падплыў, злавіў адзін кавалачак, – чар-чар – пачаркаў, нібы падзякаваў, разявіўшы свой пляскаты дзюб, і паляцеў.

Каля мяне, між зялёна-жаўтлявае асакі, толькі густа гудзе чорны, з жоўтым паскам чмель, садзіцца на леташні стаптаны троснік, ды хрыпнуць ад крыку гракі спярэшчанага мігатлівымі палосамі возера. Ды кумкаюць жабы – на цяпло, пэўна.

Учора вечарам – ужо добра прыцямнела – каля карытца пры беразе, у якое кідаюць хлеб, сабраліся дзікія качкі. Два качары *плылі абапал рабенькай качкі*, выгнаўшы яе на бераг. А ў <завоінцы> астаўся адзін. Але ён так пачаў чыркаць, покуль яна з берага не спусцілася ў ваду. І ён узляцеў на яе. Патаптаўшы, адплыўся. А тыя два ізноў сталі даганяць яе. Але калі яны ўсе разам падплылі да новае пары, качар, пакінуўшы пры беразе ціхую, затоеную качку, кінуўся плысці да іх – уся чарада ўцякла на бераг.

Дзіўна, што дзікія качкі жыравалі пры беразе позна ўвечары, поцемкам ужо, калі лятае галаватая сава. Прысеўшы на дрэва, паляцелі за чорнай пташачкай, большай за шпака. Ці не сыч. Я гэта бачыў не раз – сыча і гэтую чорную пташачку – яшчэ ў Каралішчавічах. Пры маім беразе з'явілася новая – рыжаватая, з белай тонкай шыяй і шырокім раздвоеным чубком – чомга і раз за разам пачала даваць нырца, выплываючы то каля асакі, то далёка ад яе.

Жоўтыя, як кроп, кляны на грэблі. Зацёхкаў і сціх салавей. Вытачыўся каля алешніку карычневы (бурачковы) хмель з зялёна-цёмнымі дзюбкамі, і пакалыхваецца, па-змяінаму выгінаючы шыю, зялёна-бурачковая крапіва, выкруціўшы лісце, разлёгся конскі шчавей, і цвітуць адуванчыкі. І залітае балотца стракатае ад белых, з жоўтым вочкам (маргарыткаў).

**Панядзелак, 8 мая 1978 года.**

Нясвіж, замак.

Пасля полудня сяджу ў зацішку на лавачцы, дзе між ляскаў вылезла зялёная, *маладая і яшчэ не пякучая крапіва і ўсыпаная* сівенькай валаснёй <цыліндра>. Шчэбет ластавак, і перасвіст пташачак, і густы, перагонамі, шум старых голых ліп каля жоўтага будынка на валу, і голых высокіх алешын, і жоўтых, як кроп, кляноў за ровам з вадою каля возера. У зацішку каля нашай вежы выпусціла дробнае мяккенькае лісце, набрыняла белымі бубкамі цвету высокая разложыстая сліўка. Цёхкат салаўя ў алешніку на балоце, і яго перасвіст, як у свісток з гарошынай.

Прыйшлі да лаўкі і зачыр[калі] жоўт[ым] дзюбам качар з сіняй шыяй [неразб.] чорна-белы хвост і рабенькая, як заяц, з цёмным пляскатым дзюбам і чырвона-жоўтымі ножкамі, качка. Качар крэкча і падварушвае хвастом – просіць есці. Глядзіць пацеркаю чорнага вочка. Яны *абышлі мяне і паківаліся з валу да вады.*

Дзевятая гадзіна. Пляскае дождж на чорныя, абрамленыя цэгламі градкі. На густой траве – тлустыя скалкі расы. Са слівы вецер натрос белых дробных пялёсткаў. Яна яшчэ голая, у белым дробным цвеце.

Змок, але каля паўгадзіны глядзеў, як біліся за карыч[нева]-рабенькую прысадзістую качачку два качары, <шарыя, з карыч[невым] воллем і спінкамі>. Шырокімі дзюбамі дзяўблі адзін аднога за шыю, цягалі, тузалі за пер'е. Не адпускалі, памагалі нават, лопаючы крылламі, ішлі *адзін на аднаго, ўгнуўшы галовы.* А ў гэты час трэці ганяўся за качачкаю, што, здаецца, прасілася, не даючыся яму. А ён, злавіўшы яе за чуб, за пер'е каля галавы, не адпускаў, покуль не прытаптаў. Атрахнуўся і паляцеў, а яна толькі кракатала і падварушвала хвастом. Потым прысела ў роснай траве, сцішылася пад даждажом, а гэтыя два тузаліся, стаптаўшы маладыя гладыёлусы і цыліндру на вале, коцячыся ўніз, лопаючы крыллем. Адзін нават выцерабіўся наверх, перавярнуўшы другога дагары лапкамі, той вывернуўся і пачалася зноў бітва – ціхая, зацятая. Зноў яны, учапіўшыся за пер'е каля шыі, за крыло адзін аднаго, толькі чорныя галовы паказваліся з травы. Я падышоў – адзін біў крышку зверху. Яны змагліся. Але калі я нагнуўся, каб схапіць аднаго ў руку, яны залапаталі крыллем, і паляцелі ў завоню, што акружае вал замка, і, лопаючы крыллямі, пачалі біцца на вадзе. І на гэты іхні лопат і пляскат [неразб.], зляцеліся з крыкам іншыя. І бойка спынілася. Забіякі – зноў тыя двое – змучана адзін за адным паківаліся на вал шукаць качачку, што сядзела дагэтуль ціха ў роснай траве – толькі галоўка была відаць. І калі яны, разявіўшы зялёна-жоўтыя дзюбы, закракалі, згубіўшы яе, і задзіраючы галоўкі, пачалі шукаць, яна ціха кракнула. Яны з двух бакоў акружылі яе. Потым пачалі бокам *адзін аднога адпіхаць і зноў пачалі бітву.*



**Серада, 10 мая 1978 года.**

Схаладала. Чакаюцца прымаразкі ўночы, а яшчэ не расцвіла чаромха, выпусціўшы востра-зялёнае лісце. І бэз у шылаватым лісці і ў ліловым нераспушчаным цвеце. У сівых, шылаватых, яшчэ не раскручаных *лісцях груша.*

Пазаўчора стрэў на вуліцы чалавека, які ведае даўнейшы Нясвіж. Ён расказваў, што ў горадзе пры Польшчы была агульнаадукацыйная гімназія №196 ? , гімназісты насілі на левым рукаве знак – раскрытая кніжка і лісток лілії ? , а на фуражцы, здаецца, нумар, форма цёмна-сіняя.

Полк уланаў стаяў там, дзе і цяпер вайсковая часць – пры возеры за касцёлам. Недалёка ў цэнтр[ы] горада па вузенькай вуліцы – зноў кашары. Там блізенька стаяла царква, на якую ў час вайны ўпала бомба.

Дарога з Нясвіжа да Гарадзеі абсаджана бярэзінамі, з правага боку –лес, старыя пры беразе дубы. Трэба гэта ведаць і абысці яшчэ раз: можа прыдасца для "Года нулявога". Ад касцёла, ад брамы кашараў бяжыць праз балота абсаджаная клёнамі і ясенямі дарога-грэбля да жоўтага замка на гары, што хаваецца за старымі клёнамі і ясенямі.

Для "Года нулявога".

Ад белага касцёла з круглым купалам, ад чырвонай вежы відаць грэблю, што ляжыць праз возера да зялёнага, абсаджанага старымі клянамі і *ліпамі* замка. Над дрэвамі відаць востры шпіль вежы. Блішчыць возера. <Перад абсадж. старымі ясенямі і клёнамі і падрэз. кусцікамі акацыі брама з мураванымі слупамі і жалезнымі варотамі.> *На мураваных слупах* прыгожыя ліхтары.

**Чацвер, 12 мая 1978 года.**

Холад. Сіверны лядовы вецер, бярэ нават за нос і рукі. Мякенькае, дробна-зялёнымі кветачкамі, лісце і белыя дробныя бубкі цвету. Згарнуліся, прыхаваліся кветкі, і, здаецца, прыціхлі, не так вясёла перасвістваюцца пташачкі. Сіваватае і шылаватае, што вылезла з почак, лісце на голай грушы. Толькі ў зацішку дробным цветам красуе голая сліўка.

Так і не агледзеў, не абышоў я Нясвіжа. Усяго і бачыў Слуцкую браму (1670?), ды цэнтр мястэчка, ды будынак, дзе друкаваў кніжкі Сымон Будны.

*У кабінеце фізіятэрапіі бабка, лежачы* за жоўтаю шырмаю:

– *А я ўжо нічога не баюся, хоць вуха рэж.*

Другая ёй:

– *Я баязлівая. Калі ўночы што ў хаце шархане, так валасы дыба ўстаюць. Во ўжо ўсяго баюся.*

Палітыкі пасля ванны, на тапчанах у пакої адпачынку:

– Без недостатков не бывает. А они всё ноют...

Еду адсюль, відаць, у панядзелак 15 мая.

Кожны дзень каля моста да замкавай брамы бачу карычневага верабейчыка. Ён лятае разам з усімі. Карычневы ўвесь, нібы ў [неразб.] вымазаны ці выфарбаваны.

**Субота, 13 мая 1978 года.**

Раніцаю снег, потым халодны, азыраваты дождж. На жоўтым цвеце кляноў – белыя камякі снегу. Кляны зацвілі белымі букетамі, як грушы. Учора выглядвала сонца. І азірнулася вечарам, чырвонае між голых кляноў, як на пагоду.

Учора ў фарным касцёле, ў склепе яго, аглядалі вялікія чорныя труны – дубовыя і медныя – Радзівілаў. Ксёндз – хітранькі тутэйшы чалавек – стараўся расказаць, як ведаў, гісторыю пахавання князёў, іхніх дзяцей і жонак, пачынаючы ад Кішкаў, Сіроткаў, Каханкаў і канчаючы астатняй труною, што паставілі тут у 1938 годзе.

Пагаварыць з ім сам-насам не прыйшлося. Дый пра Сыракомлю ён нічога не сказаў. Расказаў толькі гісторыю з вайны, як хавалі ад немцаў трубкі аргана і звон, як падкупілі прыёмшчыка металу – былога савецкага афіцэра – і ён выдаў фіктыўны квіток, што трубкі прыняў. А ксёндз іх перахаваў.

Касцёл, па якім білі снарадамі, крышку абгарэў зверху, але яго (купал, вежу) аднавілі за тры месяцы. У склепе, дзе стаяць на медных лапах гэтыя дубовыя драўляныя труны з забальзамаванымі Радзівіламі – ксёндз казаў, у сярэдзіну, выкінуўшы вантробы, нават клалі нейкае зелле, не падыходзіць з балота і возера вада, а яго, плытшы склеп, удома, заліло. Кажуць, ёсць тоўстая пракладка з гліны. Бычая кроў, кажуць, *таксама трымае сухасць.*

На трунах – медныя крыжыкі з Хрыстамі або павыцінаныя з медзі, пад пальмы і лаўр пафарбаваныя вянкі.

Сёння з полудня ў 86 палаце – адзін. Адзін і абышоў па мокрай сцежцы замак. У парку ў зялёных зарасцях чаромхі і смыродніку падкрадваўся да салаўя, што цёхкаў і высвістваў там, але ён бліжай да сябе, як на метраў 20, не падпускаў.

# АФІША ФЕСТЫВАЛЮ

**20 чэрвеня**

**Маладзечанскі гарадскі Палац культуры**

**16.00.** Нацыянальны акадэмічны народны хор Беларусі імя Г. Цітовіча. Народны артыст Беларусі Міхась Дрынеўскі.

**Цэнтральная плошча Маладзечна (галоўная пляцоўка)**

**21.00.** Урачыстае адкрыццё фестывалю. "Беларусь, на цябе я малюся!" Заслужаны калектыў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі. Народны артыст Беларусі Міхал Фінберг.

Народны артыст Беларусі Анатоль Ярмоленка.

Заслужаныя артысты Беларусі Мікалай Скорыкаў, Якаў Навуменка, Уладзімір Правалінскі, Нэлі Багуслаўская, Ядвіга Паплаўская, Аляксандр Ціхановіч.

Салісты: І. Афанасьева, Алеся, В. Алешка, І. Абалян, Н. Тамела, Д. Качароўскі, Г. Грамовіч, Т. Глазунова, А. Яфімік, Р. Мусвідас, Ю. Вашчук, Т. Ліпніцкая (Яна), А. Кірсанава, К. Драпеза, Н. Раманская, В. Кірыленка, П. Паўлаў, І. Капланаў, С. Стацэнка, Д. Коркіна, Г. Шышкова, В. Круглова, З. Вайцюшкевіч.

Лаўрэаты І Рэспубліканскага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні У. Аўчароў, Р. Аляхно, М. Сапацькоў, А. Зваровіч.

Бэк-вакал: С. Саладуха, Т. Сідарэнка, А. Дзюмін, А. Пятроў.

Ансамбль Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі "Бяседа", народны артыст Беларусі Леанід Захлеўны.

Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь. Кіраўнік — Наталля Міхайлава.

Народны вакальна-этнаграфічны ансамбль "Вячоркі". Кіраўнік — заслужаны работнік культуры Расіі Валянціна Міхеенка (г. Цюмень, Расія).

Ансамблі "Неруш", "Без білета", "Крыві".

Групы "Міх", "Рэй, "Гуды", "Яр".

0.30. Этнатрыо "Троіца". Кіраўнік — Іван Кірчук.

**21 чэрвеня**

**Маладзечанскі гарадскі Палац культуры**

**16.00.** "Прысвячэнне М. Кл. Агінскаму".

Сімфанічны аркестр Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. Кл. Агінскага. Кіраўнік — заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Рыгор Сарока.

Калектывы Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі:

Камерны аркестр. Дырыжор — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Валерый Сарока.

Ансамбль салістаў на драўляных духавых інструментах. Кіраўнікі — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Барыс Нічкоў, Генрых Гедыльтар.

Ансамбль трубачоў "Інтрада". Кіраўнік — Мікалай Волкаў.

Ансамбль флейтыстаў "Сірынкс". Кіраўнік — Ніна Аўраменка.

**Цэнтральная плошча Маладзечна**

**21.00.** "Лепшыя беларускія песні". Гала-канцэрт.

Заслужаны калектыў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі. Мастацкі кіраўнік — Міхал Фінберг.

**Песні на вершы:**

Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, М, Танка, Н. Гілевіча, К. Буйло, А. Куляшова, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, А. Ставера, Л. Дранько-Майсюка, А. Емяльянава, Я. Янішчыц, А. Бачылы, А. Русака, У. Някляева, Л. Пранчака, А. Лягчылава, У. Жукава, У. Карызны, А. Бадака, В. Вярбы, М. Кожуха, А. Філімонавай, А. Жукава, У. Скарынкіна, А. Туравай, А. Фіялкоўскай, У. Пецюкевіча, В. Раковіч, М. Глейзерава, М. Шушкевіча, А. Барскага, І. Панкевіча, В. Шніпа, У. Мазго, М. Ясеня, В. Жуковіча.

**Музыка:**

І. Лучанка, Ю. Семянякі, У. Алоўнікава, Я. Глебава, У. Мулявіна, І. Любана, У. Будніка, Э. Зарыцкага, Л. Захлеўнага, У. Прохарава, В. Іванова, М. Равенскага, Э. Ханка, Д. Даўгалёва, І. Паліводы, А. Чыркуна, А. Ціхановіча, У. Карызны, Л. Мурашкі, Я. Магаліфа, А. Елісеенкава, З. Яўтуховіча, А. Казловіча, В. Сярых, В. Раінчыка, Ю. Багаткевіча, Н. Чацверыковай, С. Пазняка, І. Капланава, А. Моўчана, М. Алешкі, М. Пятрэнкі, С. Ждановіча, В. Раковіч, І. Цвятковай, І. Канькова, І. Абалян, Я. Навуменкі, А. Балотніка.

**0.30.** Канцэрт джазавай музыкі.

Заслужаны калектыў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі і яго джазавыя калектывы:

Група "Атава". Кіраўнік — Антон Боеў.

Ансамбль традыцыйнага джаза "Рэнесанс". Кіраўнік — Мікалай Лапцёнак.

Джазавае трыо. Кіраўнік — лаўрэат міжнародных джазавых фестываляў Аркадзь Эскін.

Вядучыя — заслужаныя артысты Рэспублікі Беларусь Алена Спірыдовіч і Генадзь Давыдзька, артысты Ірына Смольская і Аляксандра ды Валянціна Груздзевы.

**Мастацкі кіраўнік фестывалю — народны артыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Міхал ФІНБЕРГ.**

# ПРАГРАМА
## ЛІТАРАТУРНЫХ СУСТРЭЧ З ПАЭТАМІ І КАНЦЭРТАЎ ТВОРЧЫХ КАЛЕКТЫВАЎ ГОРАДА І РАЁНА

**21 чэрвеня**

**Парк культуры і адпачынку імя Перамогі**

**12.00—12.40** — народны ансамбль песні і танца "Спадчына" гарадскога Палаца культуры

**12.40—13.10** — сустрэча з Алесем Пашкевічам, старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў

**13.10 — 14.00** — народны хор ветэранаў вайны і працы "Надзея" Дома культуры чыгуначнікаў

**14.00—14.30** — сустрэча з паэтам Уладзімірам Мазго

**14.30—15.00** — фальклорны гурт Цэнтра мастацкай творчасці навучэнцаў

**15.00—15.30** — сустрэча з лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі Раісай Баравіковай

**15.30—16.00** — ансамбль народнай песні "Жывіца" Цэнтра творчасці і адпачынку ААТ "Электрамадуль"

**16.00—16.40** — хор клуба ветэранаў вайны і працы "Адпачынак" Палаца культуры

**16.40—17.40** — духавы аркестр МНС г. Маладзечна

**Пляцоўка "Юбілейная" (вул. Прытыцкага, 16)**

**12.00—12.40** — творчы калектыў мастацкай самадзейнасці Дома культуры чыгуначнікаў

**12.40—13.10** — сустрэча з галоўным рэдактарам часопіса "Вожык", лаўрэатам літаратурнай прэміі імя А. Куляшова Алесем Пісьмянковым

**13.10—13.40** — народны ансамбль народнай музыкі "Пацешкі" маладзечанскай дзіцячай музычнай школы

**13.40—14.10** — сустрэча з галоўным рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура" Уладзімірам Маруком

**14.10—14.40** — народны ансамбль народнай песні "Харашуха" выкладчыкаў ДМШ

**14.40—15.10** — сустрэча з паэтам Міколам Шабовічам

**15.10—15.40** — народны ансамбль народнай музыкі "Самагуды" ДМШ

**15.40—16.30** — творчы калектыў станказавода

**Пляцоўка "Белзнешэканамбанк" (вул. Віленская, 10)**

**12.00—12.40** — фальклорны гурт в. Мазалі "Крынічанька"

**12.40—13.10** — сустрэча з галоўным рэдактарам каардынацыйнай дырэкцыі Беларускага радыё Навумам Гальпяровічам

**13.10—13.50** — вакальная група "Беразіначка" Беразінскага СДК

**13.50—14.30** — народны ансамбль "Сакавінка" Чысцінскай ДМШ

**14.30—15.10** — сустрэча з паэтам Леанідам Дранько-Майсюком

**15.10—15.50** — ансамбль народнай музыкі "Хажоўскія музыкі"

**15.50—16.30** — народны ансамбль народнай песні "Маркаўчанка"

**16.30—17.00** — ансамбль народнай музыкі "Гарадоцкія музыкі"

**17.00—17.30** — народны ансамбль "Рэзананс"

ЛіМ

Выходзіць З 1932 ГОДА
У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Віктар ШНІП

Рэдакцыйная рада:
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Леанід ГАЛУБОВІЧ,
Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19
ТЭЛЕФОНЫ:
галоўны рэдактар — 284-6673
намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404
адказны сакратар — 284-6673

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-7965
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965
літаратурнага жыцця — 284-7965
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965
паэзіі і прозы — 284-7965
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-7965
карэктарская — 284-8091
бухгалтэрыя — 284-6672
Тэл./факс — 284-85-25

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1694
Нумар падпісаны ў друк 18.06.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1528

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12